*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА


Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ № 52 (160) ◈ 29 снежня 1993 г. ◈ Кошт — 5 рублёў.




*Вiншуем спадароў са святамі, з Новым годам і Калядамі.*
*Хай Вам радасна жывецца, хай у Вас дабро вядзецца,*
*І на злосць усіх завей Беларусь жыве!*



## ДЗЯКУЕМ, СЯБРЫ!

Старшыня Салігорскай суполкі ТБМ Марыя Мацюкевіч за сродкі Таварыства выпісала на першы квартал 1994 года для дзіцячых садкоў, школ, некаторых установаў горада 87 камплектаў газеты «Наша слова». Рэдакцыя «Нашага слова» дзякуе спадарыні Марыі за клопат і жадае ёй і яе сябрам шчаслівага Новага года.

## НА ДАЛЁКІМ УСХОДЗЕ ЖЫВУЦЬ БЕЛАРУСЫ

Шаноўная рэдакцыя, я нядаўна пачала выпісваць «Наша слова», і газета мне вельмі спадабалася. Я вырашыла выпісаць яе і на 1994 год, але ў каталогу яе не аказалася, а начальнік пошты сказала, што «Наша слова» ў Расіі не распаўсюджваецца. Не ведаю, што і рабіць, бо газета стала для мяне блізкай і нават любімай. Калі я чытаю «Наша слова», то ўспамінаю сваю радзіму. Я па нацыянальнасці беларуска, нарадзілася ў г. Дзяржынску Менскай вобласці, але так ужо атрымалася, што жыву цяпер у Расіі ды яшчэ на Далёкім Усходзе. Парайце, як усё ж атрымаць газету.

ТАЦЦЯНА.
Амурская вобл., пас. Васточны.

*АД РЭДАКЦЫІ.* Дарагая зямлячка Таццяна! Мы ганарымся, што ў «Нашага слова» ёсць такія шчырыя сябры сярод землякоў нават на Далёкім Усходзе і вельмі засмучаны недарэчнасцю з падпіскай. Рэдакцыя заплаціла немалыя грошы, каб «Наша слова» было ўнесена ў расійскі каталог, і ў тых экзэмплярах, якія мы бачылі, гэта зроблена. Магчыма, на Далёкім Усходзе «Наша слова» трапіла ў дадатковы спіс?

Мы адказваем Вам праз газету, шаноўная Таццяна, бо, магчыма, падобныя праблемы ўзніклі яшчэ ў некага з нашых падпісчыкаў у Расіі. Відаць, ад хвалявання Вы не ўказалі свайго прозвішча, але хатні адрас ёсць. Віншуем з Новым годам, жадаем моцнага здароўя і ўсяго добрага Вам і Вашым блізкім! Сардэчнае навагодняе прывітанне ўсім землякам-беларусам, хто зараз знаходзіцца далёка ад Маці-Беларусі, але помніць і шануе яе!

## Некаторыя дэпутаты гатовы пагадзіцца на ўсякую іншую мову, абы толькі не на беларускую

*На жаль, нашы «вялікія» газеты сціпла даюць інфармацыю з сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. І трэба толькі вітаць ініцыятыву «Звязды», якая ўрэшце ў № 225 апублікавала аналітычны матэрыял пра яшчэ адну спробу пракамуністычнай большасці абвастрыць моўную сітуацыю на Беларусі. «Наша слова» вырашыла пазнаёміць сваіх чытачоў з гэтым матэрыялам, які і прапануецца вашай увазе.*

Тры гады, як у рэспубліцы дзейнічае Закон аб мовах, а нашы заканадаўцы, падобна, усё яшчэ сумняваюцца, якой мовай павінна карыстацца суверэнная дзяржава — сваёй роднай, на якой спрадвечна гаварыла карэннае насельніцтва, альбо іншай, укаранёнай у многім гвалтам. Ва ўсялякім разе, у праекце Канстытуцыі замацаваць статус дзяржаўнай за беларускай мовай пакуль што не ўдалося. 17-ы артыкул праекта вернуты на дапрацоўку — за яго прагаласавалі 199 дэпутатаў, у той час як для прыняцця патрабавалася канстытуцыйная большасць — 230 галасоў.

Падчас дэбатаў у парламенце вакол гэтага, несумненна, важнага для лёсу нашага суверэнітэту пытання, у рэдакцыі гучалі тэлефонныя званкі, якія сведчылі: у гэты цяжкі час нашы суайчыннікі дбаюць не толькі пра хлеб надзённы, але і пра будучыню сваёй дзяржавы. І ім далёка не абыякава, якое рашэнне прыме гэты парламент, ці станем мы, урэшце, паўнацэннай нацыяй, ці будзем гаварыць на сваёй мове, альбо, як і раней, будзем цурацца свайго нацыянальнага, страцім сваю памяць і перспектывы, як манкурты.

Складваецца такое ўражанне, як слушна заўважыў адзін з тэлефанаваўшых, што некаторыя дэпутаты гатовы пагадзіцца на ўсякую іншую мову, абы толькі не на беларускую. На такія сумныя разважанні наводзяць і вынікі паіменнага галасавання за дзяржаўнасць беларускай мовы.

Адзначым, што адкрыта супраць замацавання за ёю статуса дзяржаўнай выказаліся толькі два народныя абаронцы — М. Грынёў і П. Папоў. Астатнія адзначылі сваю пазіцыю так: устрымаўся альбо ўвогуле не галасаваў, хоць, заўважым, дэпутаты гэтыя рэгістраваліся. Што ж, пазіцыя зручная: у выпадку чаго можна будзе перад выбаршчыкамі заявіць: «А я ўвогуле не галасаваў!»

Чаму ж у такую няміласць трапіла беларускае слова, якое з вялікай цяжкасцю, але пакрысе ўсё ж распрамляе свае плечы?

Выразна прадэманстравалі сваё стаўленне да балючай праблемы дэпутаты ад ветэранскіх арганізацый. Пераважная іх большасць — 18 чалавек — альбо ўстрымалася, альбо не галасавала па гэтаму пытанню ўвогуле. І калі ў пазіцыі М. Жураўлёва, скажам, альбо М. Качана, М. Лакцюшына, В. Сарокіна няма нічога непрадбачанага (ужо прызвычаіліся, што шаноўныя ветэраны ніяк не ўспрымаюць тую ж нацыянальную сімволіку), то пазіцыя іншых выклікае здзіўленне. Ну, чаму, напрыклад, так актыўна працівяцца наданню статуса дзяржаўнай беларускай мове дэпутаты з Магілёўшчыны? Нельга ж на самай справе ўспрымаць сур'ёзна той факт, што яны, маўляў, там бліжэй да Расіі... Як бы там ні было, але дэпутаты А. Кулічкоў, У. Канавалаў, А. Кічкайла, П. Катушкін, Г. Яскевіч (апошнія — намеснікі старшыні аблвыканкама), відаць, ніяк не хочуць лічыць «гэтую мову» дзяржаўнай — таму і ўвогуле ўстрымаліся. Не галасавалі дэпутаты А. Лукашэнка, В. Ляонаў, М. Казючыц, У. Самошчаў. Што ж, гэта іх воля, але калі ж такая воля ў дырэктара адной з асіповіцкіх школ, народнага дэпутата Р. Самусевіч... Можа, у яе некалькі іншы пагляд на выхаванне дзетак, толькі наўрад ці без любові да роднага слова, без выхавання свайго гонару і годнасці можна вырасціць сапраўдных людзей.

Аналагічная пазіцыя і ў большасці дэпутацыі Віцебскай вобласці. Праігнаравалі галасаванне старшыня абласнога Савета У. Кулакоў, дэпутаты Я. Радзецкі, І. Авін, Я. Бачароў, В. Чэпік, М. Веслаўхаў. Дарэчы, з народных дэпутатаў, якія з'яўляюцца старшынямі абласных Саветаў, толькі адзін — старшыня гомельскага М. Вайцянкоў аддаў свой голас у абарону беларускай мовы.

На сумныя разважанні наводзіць той факт, што яе не хочуць падтрымліваць тыя палітыкі, якія, у дадатак да ўсяго, павінны гэта рабіць па роду сваёй дзейнасці. Было неяк нязвыкла, шчыра кажучы, бачыць сярод тых, хто ўстрымаўся пры галасаванні альбо не галасаваў увогуле за наданне статуса дзяржаўнай беларускай мове такіх дэпутатаў, як акадэмік Я. Канапля, В. Ціхіня, які, будучы намеснікам старшыні вышэйшай атэстацыйнай камісіі рэспублікі, прымае экзамен на прафесіяналізм у беларускай прафесуры, альбо зноўтакі — дырэктар школы са Слуцкага раёна М. Гарэлік...

І зусім «цікавая» пазіцыя, скажам, у народнага дэпутата В. Даніленкі, які працуе паслом Рэспублікі Беларусь у Расіі.

* * *

**УСТРЫМАЛІСЯ:** І. Авін, У. Андрэйчанка, В. Даніленка, В. Далгалёў, П. Драбышэўскі, М. Жураўлёў, М. Зайцаў, П. Катушкін, А. Кічкайла, М. Коваль, У. Канавалаў, Я. Канапля, У. Крышталевіч, А. Кулічкоў, М. Лакцюшын, І. Лапавухаў, А. Лукашоў, Ф. Мінько, В. Марозаў, А. Новікаў, У. Новікаў, А. Авечкін, Я. Пахілка, В. Піцуха, У. Пагуляеў, А. Пракопаў, Б. Савіцкі, А. Саенка, Р. Самусевіч, В. Сімчылін, У. Скрыцкі, В. Сарокін, М. Сасноўскі, У. Станкевіч, М. Судас, В. Ціхіня, І. Ціханаў, А. Траццякоў, У. Уранюк, А. Фрэйнберг, В. Чырун, В. Шукшын, Г. Яскевіч.

**НЕ ГАЛАСАВАЛІ:** М. Аксаміт, С. Барсукоў, Я. Бачароў, М. Веслаўхаў, А. Гацкоў, У. Герасімаў, І. Германчук, М. Гарэлік, Б. Гюнтэр, М. Дамінікан, П. Драган, М. Івашкевіч, Н. Ізвалава, М. Казючыц, І. Калмычкоў, А. Карпаў, М. Качан, А. Калодка, М. Копач, А. Кузьмянкоў, Г. Кузюк, У. Кулакоў, У. Лазарэвіч, В. Ляонаў, З. Ломаць, А. Лукашэнка, Б. Макейчанка, В. Малашка, У. Малышаў, А. Мамчыц, М. Маркоўскі, П. Мінчанка, І. Машкоў, І. Нялюбін, Г. Нікіцін, Я. Новікаў, А. Паўлоўскі, С. Пісарэвіч, Р. Плоцкі, А. Пазюмка, П. Пракаповіч, Я. Радзецкі, В. Радамысльскі, Г. Сівіцкі, А. Слабада, М. Салдатаў, У. Студзянцоў, І. Ціцянкоў, А. Цішкевіч, М. Тоўсцік, І. Трусаў, В. Федарэнка, А. Флар'яновіч, Я. Чаванькоў, В. Чэпік, А. Шаўнін, А. Шыдлавец, А. Шыпко, В. Шкурко.

АД РЭДАКЦЫІ «НАШАГА СЛОВА»: Мы папрасілі пракаменціраваць гэты матэрыял народнага дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Яўгена Цумарава. Ён адзначыў, што газеты, на жаль, даволі сціпла адлюстроўваюць тое, што адбываецца на сесіі Вярхоўнага Савета (за выключэннем, хіба, спрэчак вакол даклада А. Лукашэнкі), і «Звязда» вельмі добра зрабіла, шырока праінфармаваўшы грамадскасць рэспублікі аб тым, хто і як сябе паводзіў у часе галасавання па адным са стратэгічных пытанняў па ўмацаванні суверэннасці Беларусі. Тым не менш варта было ўсё ж удакладніць, сказаў Яўген Цумараў, хто не галасаваў не таму, што займае антынацыянальную пазіцыю, а па іншых прычынах. Напрыклад, ён ведае, што народныя дэпутаты В. Малашка і І. Германчук проста адсутнічалі па ўважлівых прычынах. Відаць, так здарылася і з некаторымі іншымі дэпутатамі. На думку Яўгена Цумарава, дэпутатаў, якія ўсведамляюць усю важнасць таго, што адзінай дзяржаўнай мовай павінна быць беларуская, зараз у Вярхоўным Савеце больш дзвюх соцень.

# Дзякую Бацькаўшчыне!

Нягледзячы на тое, што чыноўнікі з «Менскай пошты» пазбавілі нас, беларусаў замежжа (выключэнне зроблена толькі для беларусаў, якія пражываюць за ўсходняй мяжой і маюць «драўляныя» рублі), падпісацца на беларускія газеты і часопісы, у нас будзе магчымасць іх чытаць дзякуючы Згуртаванню беларусаў свету «Бацькаўшчына», за што хачу шчыра падзякаваць Старшыні ЗБС спадарыні Ганне Сурмач, а таксама спадарыні Ніне Петуховай, супрацоўніцы ЗБС, якая ўласнаручна запаўняла падпісныя лісты і абанементы на замоўленыя намі ў «Бацькаўшчыне» любімыя газеты і часопісы, сярод якіх у першую чаргу названы «ЛіМ», «Голас Радзімы», «Наша слова», «Спадчына», «Беларуская мінуўшчына», «Беларусь», шэраг іншых беларускамоўных выданняў.

Кола такіх выданняў сёння ў Беларусі вельмі малое, але хочацца спадзявацца, што яно будзе пашырацца ў працэсе раскручвання рухавіка нацыянальнага Адраджэння, якому, я ўпэўнены, ужо не перашкодзяць ні камуністы-«інтэрнацыяналісты», ні тутэйшыя манкурты, бо іх часы мінаюць. Але сёння тэтыя сілы ўсё яшчэ трымаюць уладу ў сваіх руках, таму адсюль і здараюцца такія прыкрасці, калі па Беларускаму радыё дыктар чытае рэкламу на расійскай мове. А глянецца на шыльды ў Менску, якія нібыта пададзены па-беларуску: «Кафе «Вясна», замест «Кавярня «Вясна», бо як можа быць каф. калі «кофе» па-беларуску кава?! А што гэта за «магазін», калі ёсць цудоўнае беларускае слова — адпаведнік расійскаму «магазіну» — крама! Крама — старадаўняе беларускае слова, яго няма ў расійцаў, у палякаў. Затое ў палякаў ёсць слова «магазін», якое азначае склад тавараў.

Я некалькі адышоў убок ад тэмы свайго ліста, але ж так хочацца шмат аб чым сказаць сваім суродзічам у Беларусі і тым, хто жыве за яе межамі, і перш за ўсё заклікаць да захавання чысціні роднай беларускай мовы!

Паслухалі б некаторыя мажныя дзядзькі, як ужо навучыліся размаўляць па-беларуску мае вучні-украінцы, якія жывуць ва украінскім моўным асяроддзі і чуюць жывую беларускую мову ад мяне, выкладчыка.

У сваёй школе я арганізаваў гурток беларускай культуры «Зорка Венера», аб чым паведаміў беларускай грамадскасці праз газеты «Настаўніцкая газета», «Наша слова» і «Чырвоную змену», запрашаў землякоў-беларусаў падтрымаць мяне ў гэтай справе. Спадзяваўся, што мяне «заваляць» лістамі... На самай справе аказалася ўсё наадварот: з Беларусі на адрас школы прыйшло ўсяго (сорам прызнацца) 8 пісьмаў: 2 лісты ад менчукоў-школьнікаў Сяргея Пятрыкевіча і Сяржука Смятрычэнкі, 3 лісты з Менскай вобласці — з вёсак Лоша Уздзенскага, Шашкоўка Стаўбцоўскага, Гольчыцы Слуцкага раёнаў, і ліст з Магілёва ад студэнткі хіміка-тэхналагічнага тэхнікума Алы Афанасевіч. І ліст з Брэсцкай вобласці ад гуртка «Крынічка», што ў Перарубскай школе Янаўскага (Іванаўскага) раёна, і, нарэшце, і ліст з Гомельскай вобласці ад важатай Чаплінскай СШ Лоеўскага раёна. З Гарадзеншчыны і Віцебшчыны не атрымаў нічога. Сумна.

Для параўнання прывяду прыклад высокай нацыянальнай свядомасці і нашых заходніх суседзяў-палякаў. У мінулым годзе ў школе ўводзілася факультатыўнае навучанне польскай мове ў маім выкладанні. Падручнікаў амаль не было. Тады я звяртаюся ў адну з найбольш папулярных газет Польшчы — «Газету Выборчу», апавядаю пра сітуацыю. Літаральна праз месяц на мой адрас пасыпаліся пасылкі, бандэролі з розных куткоў Польшчы з падручнікамі на польскай мове, гісторыі Польшчы, яе геаграфіі, асобныя кнігі польскіх пісьменнікаў. Сёння я маю такі фонд падручнікаў на польскай мове, што магу забяспечыць ужо яе вывучэнне не факультатыўна, а як прадмет. А колькі лістоў удзячнасці атрымаў ад незнаёмых мне палякаў за тое, што пачаў навучаць дзетак-украінцаў польскай мове! Вось бы нам такога патрыятызму і актыўнасці ў прапагандзе беларускай мовы за межамі Беларусі. А пакуль... Скажам, у сваім лісце ў названыя газеты я звяртаюся да старшыні таварыства дружбы «Беларусь — Украіна» спадара Гайсёнка, які з'яўляецца міністрам адукацыі РБ дапамагчы нам падручнікамі беларускай мовы, беларускімі дзіцячымі кніжкамі. І што? А нічога. А якія былі абяцанні падчас работы Першага з'езда беларусаў свету.

...Я ўжо быў апусціў рукі, і вось тэлефонны званок са штаб-кватэры ЗБС «Бацькаўшчына»: Ніна Петухова пацікавілася маімі справамі, і я ёй шчыра прызнаўся ў сваіх цяжкасцях з літаратурай, прэсай. Ніна Іванаўна мяне абнадзеіла.

Хачу публічна са старонак газеты пакаяцца: у сваім допісе «А пра нас забыліся» напісаў наступнае: «...Хто паклапоціцца пра нас? ЗБС «Бацькаўшчына»? Але яно, як бачым, сваю справу зрабіла: правяло з'езд, выдыхнулася, адпачывае...» Сёння мне вельмі сорамна за напісанае, прыношу свае шчырыя прабачэнні. А ўся справа ў тым, што я атрымаў апошнім часам пасылкі з газетамі і часопісамі са зваротным адрасам... прадпрыемства «Менская пошта» і лічыў, што там завёўся нейкі шчыры беларус, які мне дапамагае. Напісаў нават ліст падзякі начальніку «Менскай пошты» А. І. Малыку за дасланыя газеты і часопісы (ўяўляю ягонае здзіўленне ). І вось сёння, нарэшце, з тэлефоннай размовы са спадарыняй Нінай даведаўся, што пасылкі шлюць мне не «феі» з прадпрыемства «Менская пошта», а спадарыня Ніна Петухова са ЗБС «Бацькаўшчына»! Не магу вам, шаноўнае спадарства, перадаць на словах, як мне стала сорамна. Нізкі паклон і шчырая падзяка за ўсё, што робіць для нас «Бацькаўшчына», робіць ціха, без гучных фанфар, але стабільна, надзейна. Каб мы ў далечыні ад сваёй Радзімы пачуваліся беларусамі, не парвалі повязяў са сваёй роднай Беларуссю.

**Пятрусь КАПЧЫК.**

г. Ізяслаў.

# ЗА ВОЛЬНАСЦЬ,

1794



**Паўгода працуе Нацыянальны арганізацыйны камітэт па святкаванні ў Беларусі 200-х угодкаў Вызвольнага паўстання 1794 года, які заснавалі 27 грамадскіх арганізацый, суполак ды палітычных партый і рухаў. Няспынныя пошукі, экспедыцыя па мясцінах баёў і сутычак паўстанцаў з войскам царскай Расіі далі свой плён. Паўстанне, пра якое маўчалі 200 гадоў, вяртаецца з нябыту. Але грамадскасць мала ведае пра гэтую гераічную старонку. Таму і была наладжана прэс-канферэнцыя. Старшыня Аргкамітэта Мікола Купава паведаміў пра абавязак беларускага народа сказаць сусветнай супольнасці ўсю праўду пра падзеі 1794 года.**

**Сябра Аргкамітэта вядомы беларускі гісторык Уладзімір Емяльянчык найперш звярнуў увагу прысутных на канцэптуальную памылку: паўстанне 1794 года разглядаецца як выключна польскае. Афіцыйныя гістарыёграфы не згадвалі, што змаганнем за волю была ахоплена значная частка Беларусі. На тэрыторыі Гарадзеншчыны, Берасцейшчыны, Полаччыны, Меншчыны, Магілёўшчыны ў бітвах удзельнічала 40 тысяч паўстанцаў, у шэрагах якіх побач з шляхтай змагаліся сяляне, мяшчане. А, прыкладам, на Гомельшчыне (у Хвойніках), дзе не было ваенных падзей, знаходзіўся адзін з арганізацыйных цэнтраў паўстання.**

**У. Емяльянчык сказаў і пра міжнароднае значэнне паўстання 1794 года. Беларускі шляхціч А. Т. Касцюшка змагаўся за незалежнасць Злучаных Штатаў Амерыкі. Яго асабісты ўдзел у рэвалюцыйным, дэмакратычным руху таго часу быў высока ацэнены ў Францыі, канвент якой надаў Касцюшку званне ганаровага грамадзяніна Францыі. І паўстанне 1794 года на Беларусі было своеасаблівым працягам рэвалюцыйных дэмакратычных падзей у Францыі. (Пазней яго дапоўніў і Адам Мальдзіс, які сказаў, што, паводле расійскіх даследчыкаў, паўстанне 1794 года паклала пачатак дваранскаму перыяду вызваленчага руху ў Расіі.) Ёсць звесткі і пра тое, што Касцюшка ў Шлісельбургскай крэпасці прапагандаваў ідэі правоў чалавека, якія распрацаваў і агаласіў у Амерыцы ягоны блізкі сябра — Томас Пэйн. Дэмакратычны характар паўстання 1794 года прызнаны ва ўсім свеце, усімі гісторыкамі.**

**Гэтае паўстанне было таксама і вызвольным. Такім яго задумаў і зрабіў наш зямляк Касцюшка. Менавіта ён выдаў так званы Паланецкі універсал, у якім упершыню ў Еўропе, пасля Французскай рэвалюцыі абвяшчалася воля прыгонным сялянам, упершыню асоба селяніна пачала абараняцца законам. Антыманархічная, рэспубліканская скіраванасць гэтага паўстання выразна засведчана ва ўсіх дакументах, ва ўсіх дзеяннях яго кіруючых органаў.**

**Вызвольны характар паўстання выяўляецца і асаблівасцю развіцця падзей на тэрыторыі ВКЛ, дзе быў утвораны незалежны самастойны орган кіравання паўстаннем з цэнтрам у Вільні. Была створана Найвышэйшая рада Вялікага княства Літоўскага, якую ўзначаліў Якуб Ясінскі. У Раду напачатку ўвайшло 29 чалавек. Пасля яна была дапоўнена прадстаўнікамі з паветаў, ваяводстваў і магла стаць рэвалюцыйным Часовым Урадам ВКЛ.**

**Галоўнай мэтай паўстання 1794 года было:**

**— выгнанне акупацыйных**

*Жыццё Таварыства*

## Пасяджэнне сакратарыята

*6 снежня ў памяшканні ТБМ імя Ф. Скарыны адбылося пасяджэнне сакратарыята Таварыства. Нарадай кіраваў намеснік старшыні арганізацыі З. Санько. Былі абмеркаваны пытанні бягучай дзейнасці арганізацыі і аб памерах сяброўскіх складак. Разгледжаны праект палажэння аб тэрміналагічнай камісіі і прынята рашэнне аб стварэнні арганізацыйнага камітэта па правядзенні першай усебеларускай тэрміналагічнай канферэнцыі, запланаванай на травень. Разглядалася пытанне беларускага іменніка, пасля чаго было прынята рашэнне распачаць у «Нашым слове» перадрук іменніка, укладзенага доктарам Статкевічам.*

*Сакратарыят зацвердзіў план работы ТБМ на пачатак 1994 года. Сярод зацверджаных да выканання мерапрыемстваў — зварот да генеральнага пракурора рэспублікі з прапановай правесці пасяджэнні калегіі генеральнай пракуратуры дзеля абмеркавання стану выканання Закона аб мовах. Было прынята рашэнне аб арганізацыі выязных пасяджэнняў сакратарыята ў абласных арганізацыях ТБМ, а таксама правядзенне супольнага з кіраўнікамі ВНУ рэспублікі калегіума па праблемах выкладання беларускай мовы.*

У. П.

*Рэха*

## Будаваць імперыю народу каштуе дорага

Міністр замежных спраў Расіі Андрэй Козыраў у сувязі з 75-годдзем аднаўлення незалежнасці Польшчы адзначыў, што Польшча і Расія маюць гістарычны шанс пабудаваць сапраўды дружалюбныя адносіны без дыктата і хлуслівых абдымкаў. У адказ у сродках масавай інфармацыі з'явілася выступленне міністра замежных спраў Рэспублікі Польшча Анджэя Аляхоўскага, дзе ён успомніў і пра Беларусь.

«Мы сочым за буйнымі пераменамі ў Расіі, на Украіне, у Беларусі,— падкрэсліў міністр замежных спраў Рэспублікі Польшча,— з вераю ў тое, што іх мэтаю з'яўляецца дэмакратыя і дабрабыт чалавека. Мы бачым, што, падобна іншым народам, расіяне, украінцы і беларусы ведаюць, што будаваць імперыю вельмі дорага, што гэта ажыццяўляецца за кошт народа і прыводзіць да жабрацкага стану грамадзяніна, і таму яны не дазволяць палітыкам аднавіць мэты і лозунгі зжыўшага сябе мінулага».

(«Известия», № 230, 1.12.93).

Дзе і што?

# Зазімак у Пінску

**Жыццё ў Пінску моцна змянілася з часоў Ціхана Пратасавіцкага і Івана Цюхай-Ліпскага. Паменшала засцянковай шляхты, а пабольшала «русскоязычного населения». І палітра грамадскай думкі мае розныя колеры: бел-чырвона-белы, чырвона-карычневы, зялёны.**

**Жыццё віруе.**

**У канцы кастрычніка, напрыклад, адбылася незвычайная імпрэза. Пінчукі сталага веку стварылі Аб'яднанне ветэранаў дэмакратычнай арыентацыі. Чаму? Альтэрнатыўная ветэранская арганізацыя з'явілася таму, што надакучыла простым, непрыкормленым уладамі людзям глядзець, як ад іх імя купка камуністаў робіць адыёзныя заявы, у тым ліку на сесіях Вярхоўнага Савета. Ды і рэальнай дапамогі ад існуючай арганізацыі, як гаварылі прамоўцы на ўстаноўчым сходзе, не адчувалася. Не сядзелі склаўшы рукі пінскія сябры «Клуба аматараў газеты «Правда» (ёсць і такі). Яны арганізавана прыйшлі на сход з адзінай мэтай — сарваць яго. Нават прагаласавалі супраць яго адкрыцця. А потым, апынуўшыся ў меншасці, тупацелі, пляскалі ў далоні, шумелі і ўсяляк дэманстравалі сваю нянавісць і злосць да «сепаратыстаў» і «нацыяналістаў».**

**Але і іхняе свята Кастрычніцкай рэвалюцыі прайшло нетрадыцыйна. У гэтым годзе ва ўрачыстасцях ужо не бралі ўдзел першыя асобы горада.**

**Каля трох соцень камуністаў з аркестрам і паўтузіна камсамольцаў з лямантам на «великом и могучем» прайшлі па цэнтральнай вуліцы, дэманструючы слабасільным дэмакратам пераемнасць ідэй Ільіча. Палымяныя прамовы таксама гучалі выключна па-расійску, а дакладней, на «трасянцы». У праграме было яшчэ падняцце чырвонага сцяга на плошчы імя правадыра пралетарыяў. Але тут падціснуўся нейкі «нефармал» і сапсаваў вяроўку для флагштока, за што мужныя камсамольцы яму натаўклі пад рэбры і рукі заламалі. Урэшце вырашылі ашчаслівіць камуністам рэстаўрацыйны аб'ект — былы калегіум езуітаў. Там, пад самым дахам, на недасягальнай для дэмакратаў вышыні і прымацавалі вялізны чырвоны сцяг. І лунаў ён дзесяць дзён. Аднак яны не скаланулі ні свет, ні нават Пінск. Усё было па-ранейшаму, толькі мароз з таго дня моцна прыціснуў і ніяк не сціхае. Мазуту ж для ацяплення своечасова не назапасілі, чакалі ўступлення ў «зону асобага тыпу», а наперадзе не толькі тая «зона», але зіма, і, кажуць, суровая.**

**А. ГУЛАК.**

г. Пінск.

# РОЎНАСЦЬ, НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

расійскіх, аўстрыйскіх і прускіх войскаў з тэрыторыі Рэчы Паспалітай;

— вяртанне земель, страчаных у выніку першага і другога падзелаў Рэчы Паспалітай;

— працяг рэформаў прагрэсіўнага, буржуазна-дэмакратычнага накірунку, якія пачаліся ў 1791 годзе і найбольш ярка пацверджаны ў Канстытуцыі 3 мая 1791 года.

Адвечная прага ліцвінаў-беларусаў да самастойнасці, да незалежнасці праявілася нават у гэтым супольным змаганні з агульным ворагам не толькі ў стварэнні самастойнага органа кіравання. Лозунг паўстання — Вольнасць, Цэласнасць, Незалежнасць — Якуб Ясінскі і ягоныя паплечнікі перайначылі: ВОЛЬНАСЦЬ, РОЎНАСЦЬ, НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ. Роўнасць, гэтае слова, падкрэсліў У. Емяльянчык, якраз і мела вялікі сэнс. Грамадзянская і сацыяльная роўнасць праяўляліся не толькі ў закліках да сялян удзельнічаць у паўстанні. (Да гэтага, калі шляхта ўзнімала рокаш супраць караля, абыходзіліся без іншых саслоўя.) Словы Касцюшкі, што ён не збіраецца біцца і праліваць кроў за адну шляхту, як найлепей акрэслівае характар паўстання 1794 года. Яго кіраўнікі звярталіся да сялян — і яны касінерамі пайшлі ў паўстанцкія атрады, звярталіся да мяшчанаў, да вызнаўцаў розных канфесіяў.

Мэтай паўстання было не толькі ўднаўленне межаў Вялікага княства Літоўскага і Польскага каралеўства. Яно мела за мэту, як казаў Касцюшка, умацаваць дрэва свабоды аж на берагах Нявы. А таму паўстанцы распаўсюджвалі пракламацыі, у якіх звярталіся да расійскіх салдатаў, такіх жа прыгнечаных, прыгонных сялян, што былі пасланы сюды задавальняць імперскія інтарэсы царызму. У адозвах расійскія салдаты называліся «братамі нашымі», іх заклікалі разам здабыць сабе волю.

Сябра Аргкамітэта Іван Саверчанка нагадаў пра распаўсюджанае меркаванне, што нібы наша дзяржава — Вялікае княства Літоўскае — страціла сваю незалежнасць у 1569 годзе, пасля Люблінскай уніі з Польшчай, але гэта не так. ВКЛ мела свае войска, свой урад, свае законы, якія, прыкладам Статут 1588 года, дзейнічалі да 1840 года. Да заняпаду ВКЛ спрычыніліся і палякі, і маскоўцы. Але былі тры галоўныя прычыны. Наша дзяржава была поліэтнічнай, шматнацыянальнай, і, прыкладам, украінская шляхта здрадзіла інтарэсам ВКЛ і ў 1569 годзе перайшла да Расіі. Незалежнасці дамагаліся і жамойты. Моц дзяржавы падарвала жорсткая міжканфесійная барацьба, якую распальвалі суседнія краіны. Нарэшце, расійская экспансія канчаткова знішчыла нашу дзяржаву, але не знішчыла прагі да волі. Іван Саверчанка сказаў, што мы яшчэ мала ведаем пра тых змагароў, што ўся праца яшчэ наперадзе. Захавалася шмат дакументаў пра паўстанне, з якіх мы даведаемся пра нашых сапраўдных герояў. Ён згадаў пра актыўны ўдзел у паўстанні уніятаў, Супрасльская і Віленская друкарні якіх выдалі больш за сто розных зваротаў, універсалаў, дакументаў. Гэтыя скарбы яшчэ не кранутыя.

Пра неабходнасць патрыятычнага выхавання не толькі на гераічных учынках 50-гадовай, але і 200- і 500-гадовай даўнасці гаварыў М. Статкевіч, старшыня БЗВ. Сябры гэтага згуртавання шануюць памяць усіх нашых продкаў не гледзячы на тое, з якім агрэсарам яны змагаліся.

Доўга смяяліся прысутныя на прэс-канферэнцыі, калі Адам Мальдзіс прачытаў урывак з артыкула дырэктара Кобрынскага ваенна-гістарычнага музея імя А. В. Суворава сп. Пліско, надрукаваны ў газеце «Мы и время». Там сцвярджаецца, што ўдзельнікі паўстання 1794 года былі Міхал Клеафас Агінскі, Караль Серакоўскі і... Якуб Колас.

Адам Мальдзіс пераказаў і змест гутаркі вядомага польскага перакладчыка з беларускай мовы пана Чэслава Сэнюха з прафесарам Кракаўскай політэхнічнай акадэміі імя Т. Касцюшкі панам Віктарам Зінам. Той паведаміў, што сядзіба ў фальварку Мерачоўшчына, дзе нарадзіўся А. Т. Касцюшка, не існавала ўжо ў 1863 годзе. У 20—30-я гады нашага стагоддзя сядзіба была адноўлена, але свядома на іншым месцы, каб з цягам часу правесці археалагічныя даследаванні і вызначыць сапраўднае месца, дзе стаяў будынак, у якім нарадзіўся нацыянальны герой трох народаў — беларускага, польскага, амерыканскага.

Адам Мальдзіс нагадаў таксама, што ў польскіх часопісах надрукаваны дакументы, якія пацвярджаюць, што род Касцюшкаў ў XVI—XVII стагоддзях карыстаўся беларускай мовай, што Касцюшка быў ахрышчаны два разы. Першы раз — паводле праваслаўнага абраду (У. Емяльянчык сцвярджае, што ягоная маці была уніяткай, а таму ахрысціла сына па-свойму — З. С.), а другі — у касцёле.

Прэс-канферэнцыя выклікала вялікую цікавасць. Пазнаёміцца з вынікамі працы Аргкамітэта, даведацца пра падзеі 1794 года прыйшлі прадстаўнікі 14 выданняў, беларускага і польскага радыё і тэлебачання, шмат якіх грамадскіх арганізацый. Амаль дзве гадзіны працягвалася размова пра падзеі 200-гадовай даўнасці. Зацікавіла прысутных стаўленне беларускіх гісторыкаў да паўстання 1794 года. Як вядома, у друку была распаўсюджана заява клуба вайсковых гісторыкаў, якую яны накіравалі таксама і ў Вярхоўны Савет. Адтуль звярнуліся ў Інстытут гісторыі АН абмеркаваць заяву і даць афіцыйны адказ. У аддзеле сярэдневякоўя гэтага Інстытута, дзе працуюць даследчыкі менавіта таго перыяду, падрыхтаваны адказ: заява ваенных гісторыкаў не абгрунтаваная, не адпавядае гістарычным фактам. Афіцыйны адказ разглядаўся на пасяджэнні навуковай рады Інстытута гісторыі. Адказ спецыялістаў быў ухвалены.

Хаця ісціна не сцвярджаецца галасаваннем, але, як настойвалі ваенныя гісторыкі, было праведзена тайнае галасаванне. Супраць прагаласаваў толькі адзін чалавек. Вучоныя Інстытута гісторыі АН ухвалілі таксама дзейнасць Нацыянальнага аргкамітэта па святкаванні 200-х угодкаў Вызвольнага паўстання 1794 года і рыхтуюць сваё рашэнне-адказ да публікацыі ў друку.

З. СІЦЬКО.

Мы і мова

# Светлыя акенцы адчыняцца

***Кафедра беларускай мовы Мінскага вышэйшага ваеннага вучылішча была ўтворана на базе кафедры рускай мовы больш за год назад у сувязі з урадавым рашэннем вывучаць беларускую мову ў войску. Некалькі супрацоўнікаў кафедры рускай мовы, у тым ліку я (усе мы скончылі БДУ), выказалі жаданне перайсці ў вучылішчы на выкладанне беларускай мовы. Малады калектыў горача ўзяўся за справу. Але спярша мы скончылі кароткатэрміновыя курсы пры ТБМ імя Ф. Скарыны, здалі залік вядучаму метадысту горада Валянціне Карлаўне Раманцэвіч і атрымалі пасведчанне на права выкладання беларускай мовы ў сваім вучылішчы.***

***Напачатку вучылі толькі афіцэраў. Працаваць было цяжка: не было падручнікаў, дапаможнікаў. Набыць здолелі ўсяго толькі «Русско-белорусский разговорник» А. Міхневіча. Давялося збіраць па часопісах і газетах моўны матэрыял, цікавую інфармацыю па гісторыі Беларусі і па гісторыі беларускай мовы. І тут вельмі дапамагло «Наша слова», асабліва ўрокі В. К. Раманцэвіч, што ў ім друкаваліся. Выкладчыкі самі пачалі распрацоўваць дапаможнікі, якія згадзіліся б на пачатку работы. З сабранага матэрыялу выдалі ратапрынтны зборнічак «Беларуская мова. Тэксты для чытання», у які ўвайшлі матэрыялы па праблемах арміі і вайскоўцаў, па гісторыі Беларусі, аб знакамітых людзях Беларусі, прыказкі і прымаўкі, казкі. Далей пачалі распрацоўваць урокі з граматыкай, фанетыкай, лексічнымі тэмамі, слоўнікі.***

***Зараз на кафедры плённа працуе добры калектыў выкладчыкаў. Я завітала да калег і папрасіла інтэрв'ю. У гутарцы прынялі ўдзел дацэнт Т. В. Маліноўская, старшыя выкладчыкі Р. С. Манойленка, Л. Ч. Карабельнікава, Н. М. Снагоўская, П. В. Калягіна, выкладчыкі Н. В. Адуцкевіч, Л. Б. Адуцкевіч, В. І. Аксютчанка, С. М. Рукавішнікава, Т. У. Каралёва.***

— **Які кантынгент зараз вывучае беларускую мову? Ці ёсць змены ў арганізацыі заняткаў?**

Н. М. Снагоўская, старшыня прадметна-метадычнай камісіі:

— Кантынгент навучэнцаў значна пашырыўся. Зараз беларускую мову вывучаюць курсанты I і II курсаў (у адпаведнасці з дырэктывай Міністэрства абароны РБ). Да груп афіцэраў далучыліся групы прапаршчыкаў. І ў арганізацыі заняткаў ёсць змены: заняткі па беларускай мове ўнесены ў расклад, а адрозненне ад мінулагодняга факультатыву, створаны групы па 10—15 чалавек (так званыя моўныя групы).

Дапаўняюць інфармацыю Т. В. Маліноўская і С. М. Рукавішнікава:

— Працаваць стала цікавей, але і складаней: па-першае, маем справу з моладдзю; па-другое, у складзе груп беларусы, рускія, украінцы. Цікавасць да мовы і інтарэсы ў іх розныя. Спачатку мы трохі хваляваліся, але вопыту аказалася дастаткова і вучэбны матэрыял ужо такі-сякі ёсць. Вядома, рыхтуемся да заняткаў грунтоўна.

— **А як ставяцца курсанты да вывучэння беларускай мовы?**

У гутарку ўключаюцца ўсе выкладчыкі. Аказваецца, што ў асноўным курсанты да вывучэння дзяржаўнай мовы ставяцца станоўча. Многія разумеюць: калі яны жывуць у Рэспубліцы Беларусь, трэба ведаць мову, гісторыю дзяржавы, яе культуру і, вядома, сённяшняе становішча. Адных больш цікавіць гісторыя Беларусі, другіх — гісторыя беларускага войска, іншыя цікавяцца звычаямі і традыцыямі беларусаў, вуснай народнай творчасцю. Ёсць і такія, хто любіць беларускае слова, хоча добра авалодаць граматычнай і лексічнай сістэмамі мовы. Усе інтарэсы трэба ўлічваць. Цікаўнасць вайскоўцаў выклікаюць як змест урокаў, так і найбольш эфектыўныя прыёмы і метады выкладання. Таму калектыў выкладчыкаў беларускай мовы ў пастаянным пошуку.

— **Якую мэту ставіце вы як выкладчыкі беларускай мовы?**

Л. Ч. Карабельнікава, Р. С. Манойленка тлумачаць:

— Мэта — дапамагчы курсантам, афіцэрам і прапаршчыкам авалодаць перш за ўсё гутарковай мовай. Большасць курсантаў добра чытаюць і пішуць па-беларуску, а размаўляць ім цяжка. Таму на занятках выкладчыкі звяртаюць увагу на вымаўленне (фанетыку), на граматычныя формы. Падбіраюць практыкаванні па фанетыцы і граматыцы. Акрамя розных практыкаванняў, курсанты развучваюць беларускія песні, слухаюць у запісе на плёнку тэксты, дыялогі, казкі (на кафедры ёсць два лінгафонныя кабінеты). Пасля праслухоўвання абмяркоўваюць, што дае найбольшы плён у моўнай практыцы.

— **Як ідзе работа над дапаможнікамі? Што падрыхтавалі да друку?**

Кладуць перада мной дапаможнік «Урокі беларускай мовы» (аўтары Л. Ч. Карабельнікава і Н. М. Снагоўская). У прадмове адзначаецца: «Дапаможнік складаецца з 12 урокаў, разлічаных на 50—60 гадзін аўдыторнага часу, беларуска-расійскага слоўніка і раздзела «Вольным часам», матэрыялы якога можна выкарыстаць для самастойнай работы.

У кожным уроку выдзяляюцца наступныя раздзелы: фанетыка, граматыка, лексічная тэма, хвілінка адпачынку. Акрамя таго, у першых пяці ўроках прысутнічае раздзел «Моўны этыкет», практыкаванні якога спрыяюць выпрацоўцы навыка правільнага і дарэчы карыстацца моўнымі сродкамі ў адпаведнасці з умовамі зносін».

Даведваюся, што другі дапаможнік «Некаторыя асаблівасці беларускай мовы ў параўнанні з рускай» (аўтары Г. В. Калягіна і С. М. Рукавішнікава) карыстаецца вялікім попытам ў вучылішчы. Падрыхтаваны таксама да друку «Тэматычны руска-беларускі слоўнік (аўтары Н. В. Адуцкевіч і В. І. Аксютчанка), «Дыдактычныя матэрыялы па фанетыцы і марфалогіі для заняткаў па беларускай мове» Т. В. Маліноўскай.

— **Якую дапамогу аказвае вам камандаванне вучылішча?**

Л. Г. Карабельнікава і Н. М. Снагоўская адзначаюць:

— Вышэйшае начальства заўсёды ідзе насустрач. Асабліва трэба адзначыць намесніка начальніка вучылішча па навуковай працы палкоўніка В. І. Касцяневіча. Калі ўзніклі цяжкасці з друкаваннем дапаможнікаў, ён дапамог. Знайшлі сродкі, друкарню і надрукавалі дапаможнікі.

Трэба адзначыць, што бібліятэка таксама дапамагае: выпісвае на кафедру беларускія газеты і часопісы, набывае слоўнікі, што з'яўляюцца ў магазінах, іншую літаратуру.

— **Можа ўжо і праблем няма?**

— Праблем хапае. Найбольш адчувальна адсутнасць сучасных нарматыўных слоўнікаў: тлумачальных, перакладных, тэрміналагічных. Адсутнічаюць падручнікі для курсантаў. Не хапае сродкаў, каб выдаваць свае. Як быць з вайсковай лексікай? Слоўнікам, складзеным С. Суднікам і выдадзеным на сродкі Згуртавання беларускіх вайскоўцаў, Міністэрства абароны карыстацца не раіць. Фармальна таму, што не зацверджаны на нейкай камісіі. Трэба ўводзіць у мову вайсковую і тэхнічную тэрміналогію, бо можа хоць калі пачнецца ў вучылішчы выкладанне прадметаў па-беларуску.

Ледзь не забылася спытаць пра кабінет беларускай мовы, у збіранні і распрацоўцы матэрыялаў для якога па роднай мове, літаратуры, гісторыі беларускага войска прымала ўдзел і я. Вырашылі зрабіць кабінет у выглядзе беларускай хаткі.

У адказ пачула, што нешта рабіцца, але... Што такое «але», усе ведаюць. Не хапае то аднаго, то другога. Паглядзела на жанчын — не губляюць аптымізму. Пачула: «Верым, што тыя светлыя акенцы адчыняцца». Чакаю запрашэння на ўваходзіны.

Рыма БУРДЫКА.

 



## *Гісторыя Айчыны — вайскоўцам*

***Працягваем друкаваць раздзелы з новага вучэбнага дапаможніка для вайскоўцаў «Гісторыя Беларусі».***

***М. БІЧ***

# Беларусы: палітычнае і эканамічнае жыццё ў складзе Расійскай імперыі

## (канец XVIII — сярэдзіна XIX ст.)

На пачатку XIX ст. у ваеннай кампаніі супраць Прусіі і Расіі Напалеон атрымаў поўную перамогу. Пасля паражэнняў 1805—1807 гг. Расія была вымушана пайсці на заключэнне Тыльзіцкага міру (1807 г.). Французскія войскі занялі Польшчу. Да Расіі была далучана Беластоцкая вобласць, якая 12 гадоў знаходзілася пад уладай Прусіі. Польская шляхта з уздымам сустракала Напалеона, бо чакала ад яго аднаўлення Рэчы Паспалітай. У 1806—1809 гг. з прускіх і аўстрыйскіх уладанняў у Польшчы было ўтворана Герцагства Варшаўскае, якое стала плацдармам для падрыхтоўкі вайны з Расіяй. Аднак на большае Напалеон не пайшоў. Тым не менш Польшча істотна папоўніла яго армію. Быў сфарміраваны, у прыватнасці, корпус пад камандаваннем князя Ю. Панятоўскага, які прыняў актыўны ўдзел у вайне супраць Расіі. У Варшаву, дзе стваралася польская армія, пацягнуліся магнаты і шляхта з Беларусі і Літвы. Князь Дамінік Радзівіл ахвяраваў на войска 216 тыс. злотых і за свой кошт стварыў уланскі полк.

З лета 1810 г. расійскі ўрад пачаў рыхтавацца да абароны краіны. Будаваліся ваенныя крэпасці ў Бабруйску і Дынабургу, Дрысенскі ўмацаваны лагер, мост праз Бярэзіну ля Барысава, іншыя аб'екты ваеннага значэння. На адпаведныя работы шырока прыцягвалася мясцовае насельніцтва. Шляхам рэквізіцый ствараліся значныя запасы правіянту і фуражу.

12 чэрвеня 1812 г. 600-тысячная армія Напалеона пераправілася праз Нёман і ўступіла на землі Беларусі і Літвы. 16 чэрвеня яна заняла Вільню. Першым у горад увайшоў уланскі полк на чале з Д. Радзівілам. Віленскі магістрат, беларускія арыстакраты і прадстаўнікі буржуазіі ўрачыста сустрэлі Напалеона. Праз тыдзень такую ж сустрэчу войскам маршала Даву наладзіла дваранства Менска. Беларуская шляхта паўсюдна сустракала французскія войскі як вызваліцеляў ад расійскіх захопнікаў.

Напалеону ў чэрвені 1812 г. супрацьстаялі тры рускія арміі: першая (127 тыс.) генерала М. Б. Барклая дэ Толі (штаб у Вільні), другая (45 тыс.) генерала П. І. Баграціёна (штаб у Ваўкавыску), трэцяя (43 тыс.) генерала Тармасава (штаб у Луцку). У ходзе адступлення ім неабходна было злучыцца.

1-я армія адступала праз Свянцяны — Дрысу — Полацк на Віцебск. Баграціён вёў сваё войска з Ваўкавыска праз Слонім на Мір і Менск. 27—28 чэрвеня каля Міра ў цяжкай бітве казакі генерала М. І. Платава разбілі дывізію генерала Ражнецкага. Але шлях на Менск для Баграціёна быў ужо перакрыты корпусам маршала Даву. Таму 2-я армія праз Нясвіж — Слуцк — Бабруйск накіравалася на Магілёў. Але і гэты горад ужо паспелі заняць французы. Баграціён з асноўнымі сіламі змог пераправіцца праз Днепр у раёне Новага Быхава.

У гэтыя ж дні напружаныя баі адбываліся ў раёне Полацка, дзе Барклай дэ Толі пакінуў 25-тысячны корпус генерала П. Х. Вітгенштэйна з задачай перакрыць французам шлях на Пецярбург. 14 ліпеня Полацк без боя заняў маршал Удзіно. Затым яго корпус рушыў на поўнач па дарозе на Пецярбург, але быў атакаваны рускімі войскамі. 18 ліпеня ў бітве паміж мястэчкам Клясціцы і вёскай Якубава генерал Я. П. Кульнёў атрымаў перамогу над Удзіно, які, страціўшы амаль увесь абоз і 900 палонных, быў вымушаны адступіць да Полацка.

У сярэдзіне ліпеня ў баявыя дзеянні ўключылася і армія Тармасава, якая з Валыні накіравалася ў Гродзенскую губерню для ўдару па тылах французскіх войскаў. Каля Кобрына яна акружыла 4-тысячны атрад саксонскага корпуса генерала Рэнье і прымусіла яго скласці зброю. Перадавы атрад арміі Тармасава заняў Пружаны. Але поспеху гэтая аперацыя не мела.

З першых дзён вайны Беларусь стала арэнай супрацьборства дзвюх вялікіх дзяржаў і армій, нявіннай закладніцай, ахвярай іх палітычных амбіцый і заваёўніцкіх планаў. Рабаваліся нашы гарады і вёскі, вынішчаліся і вывозіліся набыткі матэрыяльнай і духоўнай культуры, гінулі людзі. І рускія, і французскія войскі ў ходзе вайны забяспечвалі сябе правіянтам, фуражом, усім неабходным за кошт беларускага народа. Да службы ў рускай арміі шляхам рэкруцкіх набораў былі прыцягнуты многія тысячы беларусаў. У 1-й арміі шэсць дывізій былі ўкамплектаваны ўраджэнцамі беларускіх губерняў. Толькі па наборы 1811 г. Беларусь дала ў рускую армію 14750 чалавек. Патрабавалі рэкрутаў на Беларусі і французскія ўлады.

Адносіны насельніцтва Беларусі да ваюючых бакоў не былі адназначныя. Для абсалютнай яго большасці — сялянства і мяшчанства — і руская, і французская ўлады з'яўляліся прышлымі, прыгнятальніцкімі, чужымі. І адна, і другая прымушалі працаваць на паноў, плаціць велізарныя падаткі, выконваць непасільныя павіннасці на карысць дзяржавы. Вайна ж увогуле забірала апошняе.

Шляхта Беларусі вітала прыход французаў, ішла служыць у напалеонаўскую армію і ў мясцовы акупацыйны апарат з надзеяй на аднаўленне Вялікага княства Літоўскага.

1 ліпеня 1812 г. загадам Напалеона быў утвораны Часовы ўрад Вялікага княства Літоўскага. Ураду падпарадкоўваліся губерні Віленская, Гродзенская, Менская і Беластоцкая вобласць, перайменаваныя ў дэпартаменты. Павятовую адміністрацыю ўзначальвалі прадпрэфекты. У кожным павеце стваралася жандармерыя. Камісіі Віцебскага і Магілёўскага дэпартаментаў, якія не ўваходзілі ў склад ВКЛ, падначальваліся непасрэдна французскім ваенным уладам. Але рэальная ўлада на ўсёй тэрыторыі Беларусі знаходзілася ў руках напалеонаўскіх маршалаў і генералаў, войскі якіх былі тут пакінуты для аховы камунікацый.

На Беларусі Напалеон пакінуў прыблізна 100-тысячнае войска. Большая яго частка (60 тыс.) на чале з маршаламі Удзіно і Сен-Сірам размяшчалася ў раёне Полацка. У Бабруйску стаяла польская дывізія Дамброўскага. У многіх гарадах Беларусі (Менску, Віцебску, Магілёве, Барысаве і інш.) размяшчаліся значныя французскія гарнізоны. Беларускі народ павінен быў карміць, паіць, забяспечваць усім неабходным і гэтыя войскі, і асноўныя сілы французскай арміі, што пайшлі на Маскву. У ходзе бясконцых рэквізіцый распаўсюдзілася марадзёрства. Насельніцтва хавала свае прыпасы і само хавалася ў лясах, аказвала супраціўленне рэквізіцыям і рабаванням.

У такіх умовах у многіх месцах Беларусі ў другой палове 1812 г. разгарнуўся партызанскі рух. Сялянскія атрады нападалі на каманды фуражыраў, не дапускалі іх да сваіх вёсак, пры магчымасці нават знішчалі. У канцы лета 1812 г. Напалеон зразумеў, што баяздольнасць арміі ён можа захаваць толькі пры ўмове руху наперад і дасягнення перамог. Таму ён прыняў рашэнне аб далейшым паходзе на ўсход і 1 жніўня выступіў з Віцебска.

Тым часам арміі Барклая дэ Толі і Баграціёна 22 ліпеня злучыліся пад Смаленскам і выкарысталі двухтыднёвую перадышку для ўмацавання сваіх сіл. У Смаленскай бітве (2—5 жніўня) Напалеон страціў больш за 15 тыс. чалавек, але разбіць расійскую армію не змог. Пасля Смаленска яе ўзначаліў фельдмаршал М. І. Кутузаў. Адступленне працягвалася да Мажайска. Тут ля вёскі Барадзіно 26 жніўня (7 верасня) адбылася генеральная бітва. Сілы праціўнікаў у гэты час былі ўжо прыблізна роўныя. Зыход бітвы быў няпэўным. Тым не менш Кутузаў з мэтай захаваць армію аддаў загад адступіць, пакінуўшы ворагу Маскву. На працягу месяца яна знаходзілася ў руках французскай арміі, якая за гэты час амаль цалкам дэмаралізавалася. Не дачакаўшыся адказу Аляксандра І на прапановы аб міры, Напалеон у пачатку кастрычніка 1812 г. аддаў загад аб адступленні з Масквы. Расійская армія прымусіла французаў адступаць на захад па старой, разрабаванай і спустошанай Смаленскай дарозе.

У пачатку кастрычніка ў баявыя дзеянні ўключыліся і расійскія войскі, што знаходзіліся на Беларусі. 6—8 кастрычніка войска Вітгенштэйна авалодала Полацкам. 26 кастрычніка расійскае войска ўступіла ў Віцебск.

У першыя дні кастрычніка пачалося наступленне валынскай арміі П. В. Чычагова. 8 кастрычніка яна заняла Слонім і накіравалася на Менск, дзе знаходзіліся вялікія запасы правіянту і фуражу. 4 лістапада расійскія войскі занялі Менск, 9-га — Барысаў, а 12 лістапада — Магілёў. Армія Напалеона была фактычна акружана. Да таго ж наперадзе ў яе была пераправа праз Бярэзіну.

На пакутным шляху адступлення з Масквы французскім войскам давялося зведаць усе жахі, звязаныя з голадам і холадам, пры няспынным праследаванні галоўных сіл расійскай арміі з тылу, спалучаным з пастаяннымі ўдарамі з флангаў партызанскіх атрадаў. Гэты шлях быў літаральна ўслany нябожчыкамі.

Пераправу французаў праз Бярэзіну забяспечваў корпус Удзіно. 14 лістапада праз мост ля в. Студзёнка (15 км на поўнач ад Барысава) пераправіўся Напалеон са сваёй гвардыяй. А ў наступныя тры дні ў гэтым месцы загінула каля 20 тыс. французаў. Праз Бярэзіну пераправілася не больш за 60 тыс. чалавек — дзесятая частка «Вялікай арміі». Ратуючыся ад марозаў, французы палілі ўсё. У Смаргоні 24 лістапада Напалеон пакінуў армію і ад'ехаў у Парыж. 8 снежня 1812 г. расійскія войскі без бою занялі Гродна. Да Нёмана дайшлі ўсяго каля 30 тыс. французаў.

На Беларусі вайна 1812 г. пакінула спаленыя, разбураныя і разрабаваныя гарады, мястэчкі, вёскі. Асабліва пацярпелі тэрыторыі, прылеглыя да месцаў баявых дзеянняў і маршрутаў руху расійскіх і французскіх войскаў. Пры адступленні французаў насельніцтва цэлымі вёскамі, сем'ямі з малымі дзецьмі зноў, як і летам, было вымушана хавацца ў лясах. Холад, голад, хваробы паўсюдна вялі да масавай гібелі людзей.

Нягледзячы на ваенныя бедствы, беларускія губерні ў 1813 — 1814 гг. не былі вызвалены ад рэкруцкіх набораў і нарыхтовак на патрэбы расійскай арміі, якая працягвала паход на захад. Цар дараваў здраду мясцовым памешчыкам, якія пайшлі на службу да акупантаў, але нічога не зрабіў для сялян, нават для тых, хто змагаўся ў партызанскіх атрадах. Наадварот: прыгон у беларускай вёсцы пасля вайны 1812 г. рэзка ўзмацніўся.

Пагаршэнне становішча сялянства Беларусі ў канцы XVIII — пачатку XIX ст. абумовілі рост антыпрыгонніцкай барацьбы. У першай трэці XIX ст. адбылося не менш 46 буйных выступленняў сялян, якія ахапілі больш як 100 паселенняў у 27 паветах.

Шэраг буйных выступленняў быў звязаны з пратэстам жыхароў мястэчак Беларусі, прыпісаных да прыгонных сялян. Местачкоўцы і сяляне былых каралеўскіх маёнткаў, падараваных рускім памешчыкам, часта падавалі ўладам іскі аб вольнасці. Станоўчага выніку гэта, як правіла, не давала.

Французская буржуазная рэвалюцыя садзейнічала распаўсюджанню дэмакратычных ідэй («свабода», «роўнасць», «братэрства») у многіх краінах. Пад іх уздзеяннем разгортваўся і вызваленчы рух на Беларусі, які ў першай трэці XIX ст. быў прадстаўлены тайнымі таварыствамі і гурткамі, што дзейнічалі ў Віленскім універсітэце, у некаторых гімназіях і вучылішчах краю, а таксама ў войску. Членамі таварыстваў з'яўляліся прадстаўнікі беларускай шляхты, прыхільнікі ідэі аднаўлення незалежнай Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. Некаторыя з іх выступалі таксама за вызваленне сялян ад прыгону.

У канцы 10-х — пачатку 20-х гадоў XIX ст. у Віленскім універсітэце дзейнічалі тайныя таварыствы філаматаў і філарэтаў, членамі якіх з'яўляліся Тамаш Зан, Адам Міцкевіч, Ян Чачот і іншыя ўраджэнцы Беларусі. Напачатку яны ставілі перад сабой культурна-асветніцкія мэты, пазней у іх дзейнасці ўзмацніліся палітычныя, антыўрадавыя матывы. Амаль адначасова на Беларусі і ў Літве ўзнікла «Патрыятычнае таварыства», мэтай якога з'яўлялася аднаўленне незалежнай Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. У 1823 г. гурткі філаматаў і філарэтаў былі ліквідаваны паліцыяй, а іх члены высланы ў розныя губерні Расіі. Некаторыя, праўда, засталіся на свабодзе. У 1825 г. пры ўдзеле былых філаматаў М. Рукевіча, З. Навіцкага і іншых у Асобным Літоўскім корпусе, расквартараваным у заходніх губернях, было створана «Таварыства ваенных сяброў».

У сувязі з паўстаннем Сямёнаўскага палка ў 1820 г. на Беларусь з Пецярбурга быў пераведзены гвардзейскі корпус, у якім дзейнічалі расійскія дваранскія рэвалюцыянеры — дзекабрысты. У 1823 г. яны распрацоўвалі план арышту цара ў Бабруйскай крэпасці у час агляду войска. Аднак гэты план не быў ажыццёўлены. Дзекабрысты выступалі за ліквідацыю самадзяржаўя, нацыяналізацыю часткі памешчыцкіх зямель, скасаванне прыгоннага права і надзяленне сялян зямлёю. Аднак па нацыянальным пытанні яны займалі вялікадзяржаўныя пазіцыі. Права на самавызначэнне свайго лёсу яны прызнавалі толькі за Польшчаю. Усе іншыя народы Расіі, паводле праекта канстытуцыі П. Песцеля, павінны былі зліцца «у адну агульную масу».

24 снежня 1825 г., праз 10 дзён пасля няўдалага паўстання на Сенацкай плошчы ў Пецярбургу, некалькі рот салдат у Бабруйску па закліку «Таварыства ваенных сяброў» адмовіліся прысягаць Мікалаю І, аднак іншыя вайсковыя часці не падтрымалі іх. Ініцыятары выступлення былі сасланы на катаргу.

*(Працяг будзе.)*

Тэкст скарочаны;
матэрыял да друку
падрыхтаваў
**Мар'ян ВІЖ.**

 

Вучымся!

*Удакладнім*

# Знакі прыпынку пры аднародных членах

## АДНАРОДНЫЯ ЧЛЕНЫ БЕЗ ЗЛУЧНІКАЎ

1. Калі паміж аднароднымі членамі ў сказе выражаюцца спалучальныя адносіны, то гэтыя члены аддзяляюцца адзін ад другога пры дапамозе коскі: *Возера плешча, бурліцца* (М. Багдановіч). *Лес маўчыць глуха, зацята, знямела* (Якуб Колас).

**Заўвага 1.** Два дзеясловы, якія абазначаюць адно складанае паняцце, з'яўляюцца неаднароднымі і коскай не аддзяляюцца: *Вецер дзьме не суніамецца* (Якуб Колас). *Я выйду пагляджу, што робіцца на дварэ* (Кузьма Чорны). Але калі такія дзеясловы абазначаюць два паняцці, то паміж імі ставіцца коска, параўн.: *Вецер дзьме, не суніамецца.*

**Заўвага 2.** Дзве акалічнасці, якія абазначаюць межы працякання або існавання дзеянняў, з'яўляюцца неаднароднымі і коскай не аддзяляюцца: *З узгорка ў лагчынку дарожка збягае* (Якуб Колас). *Ад вёскі да лесу было кіламетраў пяць* (П. Галавач).

**Заўвага 3.** Калі два словы абазначаюць адрэзак часу, меру, прастору з канкрэтным значэннем мяжы (ад... да), то паміж гэтымі словамі, якія не з'яўляюцца аднароднымі членамі, ставіцца працяжнік: *Недалёка праходзіла шасэйная дарога Мінск — Масква* (ЛіМ). Але калі такія словы ўжываюцца не з канкрэтным значэннем мяжы (ад... да), а са значэннем выбару таго, што абазначана іх зместам, тады паміж імі ставіцца дэфіс: *Каля кожнай хаты сталі пяць-шэсць фурманак* (Змітрок Бядуля). *З клубамі марознай пары ў зямлянку не ўвайшоў, а ўкаціўся рухавы хлопец гадоў пятнаццаць-шаснаццаць* (М. Лынькоў). Пры лічбавай перадачы такіх слоў ставіцца працяжнік: *За 600—700 метраў ад дарогі трактар спыніўся.*

**Заўвага 4.** Калі два словы абазначаюць пэўнае вучэнне, мерапрыемства і г. д., то паміж гэтымі словамі, якія не з'яўляюцца аднароднымі членамі, ставіцца працяжнік: *Толькі нядаўна грамадскасці сталі вядомыя сакрэтныя пратаколы да пакта Молатава — Рыбентропа 1939 года.*

**Заўвага 5.** Не з'яўляюцца аднароднымі членамі спалучэнні двух антанімічных або сінанімічных ці блізкіх слоў, якія цесна звязаны сваім зместам і выражаюць адно паняцце. Паміж асобнымі словамі ў гэтых спалучэннях заўсёды ставіцца дэфіс: *Жылі-былі дзед і баба.*

2. У тых выпадках, калі аднародныя члены развітыя (маюць пры сабе паясняльныя словы) або аб'ядноўваюцца ў блізкія па сэнсу групы (асабліва калі ў сярэдзіне груп ёсць свае знакі прыпынку), паміж гэтымі членамі або іх групамі ставіцца кропка з коскай: *Аўсянае ржышча хмурнае жаўцела; зеляніласа густым каліўем згрызенай травы і палявога зелля* (Кузьма Чорны).

3. Калі аднародныя члены інтанацыйна і сэнсава выдзяляюцца ў сказе, а слова, з якім яны звязаны, набывае дадатковае абагульняючае адценне, то ў такім разе перад аднароднымі членамі ставіцца двукроп'е, а самі аднародныя члены аддзяляюцца адзін ад другога коскай або кропкай з коскай: *Вучыліліча рыхтуе: токараў па металу; электраслесараў па рамонту і мантажу прамысловага абсталявання; фармоўшчыкоў-ліцейшчыкаў.*

4. Калі паміж аднароднымі членамі выражаны супраціўныя адносіны, то гэтыя члены ў сказе аддзяляюцца адзін ад другога працяжнікам: *Не стома — сіла грае ў жылах* (А. Вялюгін). *Не плыты — спалуўяю песні* (А. Вялюгін).

Пры большай паўзе і развітасці аднародных членаў (пераважна выказнікаў) і ярка падкрэсленым лагічным проціпастаўленні абазначаных імі паняццяў паміж такімі членамі сустракаецца пастаноўка коскі з працяжнікам: *Жанчыны не сціхалі,— галасілі ўсё мацней* (Змітрок Бядуля).

Калі ж пры выражэнні супраціўных адносін адмоўе **не** размяшчаецца не пры першым, а пры другім члене ў аднародным радзе, тады паміж гэтымі членамі ставіцца коска: *Горад жыў, не здаваўся* (М. Лынькоў). *У лес, не ў поле ездзяць па дровы* (М. Зарэцкі). *Гэта страшная праўда, не сон* (П. Панчанка).

5. Калі паміж аднароднымі членамі ў сказе выражаюцца адносіны неадпаведнасці, то ў такім выпадку заўсёды ставіцца працяжнік: *Хацеў Арцём войкнуць ад болю — ледзь стрымаўся* (Змітрок Бядуля). *Андрэй думаў усё зрабіць сам — не змог* (П. Пестрак). *Хацеў быў спытацца ў старасты — не адважыўся* (Якуб Колас).

6. Працяжнік ставіцца паміж аднароднымі членамі сказа, з якіх апошні ўдакладняе або дапаўняе змест папярэдняга: *Праходзілі дні хутка — быстраю рэчкаю беглі ў вечнасць* (Кузьма Чорны). *Сілы правяраюць птушаняты — б'юць па голлі крыллем маладым* (П. Броўка).

Калі ўдакладненне суправаджаецца заключальным адценнем і становіцца асабліва катэгарычным, то пры большай паўзе і развітасці аднародных членаў (пераважна выказнікаў, якія па сваёй ролі суадносяцца з няпоўнымі прэдыкатыўнымі часткамі складанага сказа) паміж такімі членамі сустракаецца пастаноўка коскі з працяжнікам: *Шырока лягла пабудова,— да самых узлескаў сасновых мурамі ўзнялася ўгору* (М. Машара). *Я сяджу за сталом,— чытаю кнігу* (Янка Брыль).

7. У радзе выпадкаў працяжнікам аддзяляюцца аднародныя члены сказа, якія маюць дадатковае адценне выніку (часам нечаканага): *Песню я запяю — раскатурхаю цьму* (Якуб Колас). *Пагуляла завіруха — пазмятала ў гурбы пух* (П. Панчанка).

Калі вынік суправаджаецца ярка падкрэсленым заключальным адценнем, то пры большай паўзе і развітасці аднародных членаў (пераважна выказнікаў, якія па сваёй ролі суадносяцца з няпоўнымі прэдыкатыўнымі часткамі складанага сказа) паміж такімі членамі сустракаецца пастаноўка коскі з працяжнікам, напрыклад: *Вазьму касу я,— скашу быльнёг пад санцавей!* (П. Трус). *Дзяўчаты са ўсёй Беларусі пачулі,— збіраюць яму васількі на кашулю* (П. Броўка).

8. Працяжнік (або коска і працяжнік — пры большай паўзе і развітасці аднародных членаў у шматчленным радзе) ставіцца пасля аднародных членаў для больш выразнага і дакладнага адмежавання іх ад іншых членаў сказа; самі ж аднародныя члены звычайна аддзяляюцца адзін ад другога коскай: *Ад'ютант, камендант, двое вартавых — бязззычна зніклі з пакоя* (Э. Самуйлёнак). *За святло душы, за сілу, ласку — пакахала дзеўчына яго* (А. Бялевіч).

**Заўвага.** Калі аднародныя члены звязваюцца як злучнікам **і**, так і бяззлучнікавым спосабам, то паміж гэтымі членамі знакі прыпынку ставіцца на аснове агульнага правіла: *Тут прастор палёў, лясы і горы, глыбіню азёр і сілу рэк, нават сонца яснае і зоры — пакарыў упарты чалавек* (П. Броўка).

9. Пры парцэляцыі аднароднага члена без злучнікаў становяцца функцыянальнымі аналагамі сказа і аддзяляюцца пры дапамозе кропкі або шматкроп'я (пры большай паўзе): *Усё шумела ад дажджу. Ад ветру* (Э. Самуйлёнак). *Там лясы... Сенажаці... Даліны... Цёмны гай... Адзінокі Карней...* (П. Трус).

# Кароткая энцыклапедыя беларускай мовы

**Аляксандр Мікалаевіч Булыка (18.IV.1935, в. Селішча Навагрудскага раёна), доктар філалагічных навук, загадчык аддзела рускай мовы Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа. Даследаваў каля 180 свецкіх і рэлігійных рукапісных і друкаваных кніг XIV—XVIII стст., што захоўваюцца ў бібліятэках, архівах і музеях Масквы, Санкт-Пецярбурга, Вільні, Менска, Кіева, Рыгі. Вынікі гэтай працы выкладзены ў манаграфіі «Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы» (1970). Шмат гадоў А. М. Булыка вывучае шляхі пранікнення варварызмаў, лацінізмаў, грэцызмаў, цюркізмаў у беларускія пісьмовыя помнікі. Паводле яго даследавання «Даўнія запазычанні беларускай мовы» (1972) у нашай мове прыжыліся прыблізна 4000 чужых слоў. Вучоны цікавіўся і пранікненнем беларускіх слоў у кніжнаславянскую мову.**

А. М. Булыка вывучаў мову такіх буйных помнікаў беларускай пісьменнасці, як «Вісліцкі статут», «Статут Вялікага княства Літоўскага», «Аповесць пра Трою», «Метрыка Вялікага княства Літоўскага». Ён жа — адзін з актыўных аўтараў «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы».

Паводле **І. У. САЛАМЕВІЧА.**

**Леанід Іванавіч Бурак (23.III.1930, в. Кульшына Вілейскага раёна), доктар філалагічных навук, прафесар БДУ, даследчык сінтаксісу беларускай мовы. Шматлікія манаграфіі і артыкулы вучонага прысвечаны аналізу арганізацыі сказаў, відаў і сродкаў сінтаксічнай сувязі, характару злучэння і далучэння да іх узаемаадносін у сінтаксічнай сістэме.** У акадэмічнай «Граматыцы беларускай мовы» Л. І. Бурак напісаў шэраг важных раздзелаў пра словаўтварэнне і націск назоўнікаў, адасобленыя, параўнальныя і ўстаўныя канструкцыі, складаназлучаныя і бяззлучнікавыя складаныя сказы. У манаграфіі «Далучэнне ў сучаснай беларускай мове» (1975) па-новаму раскрыў сутнасць і вызначыў адметныя адзнакі далучэння як аднаго з відаў сінтаксічнай сувязі. Сістэматызаваны выклад правіл беларускай пунктуацыі падаў вучоны ў «Даведніку па пунктуацыі беларускай мовы». Л. І. Бурак — аўтар дапаможнікаў, праграм, метадычных распрацовак і рэкамендацый пра навуковую арганізацыю і ўдасканаленне навучальна-метадычнага працэсу ў сярэдняй і вышэйшай школе.

Паводле **Н. С. МАЖЭЙКІ.**

*Жывое слова*

# Друкавальная машынка

*«Друкавальная машынка будзе табе тукаць аглушліва ўвушшу, а ты ўдода пачуеш у лесе, як скрозь далёкі-далёкі шум і туман».*

**(Максім Гарэцкі. З запісаў на шматках паперы. ЛіМ, 5.VIII.83).**

«Пішучая машынка» — так — і найчасцей так — можна пачуць па радыё і тэлебачанні. Нярэдка такое можна напаткаць у газеце і ў кнізе. Пачутае з эфіру не вельмі працытуеш. Моўленае як слова, што верабей, вылецела — і шукай у полі ветру. Развеялася, як туман. А вось напісанае пяром, адбітае на варштаце, з клішэ, сапраўды не высечаш ні сякерай, ні тапаром. З аб'явы ў «Звяздзе»: *«Фірма «Шеврон» прадае па наяўнаму разліку партатыўныя пішучыя машынкі «Ромашка» (руска-беларуска-лацінскі шрыфт).*

Хіба ж мы гаворым: «Напішы на машынцы! Перапішы на машынцы! Напішу на машынцы». Пэўна, што не! Просім: «Надрукуй на машынцы». Паведамляем: «Прымаем рукапісы, надрукаваныя на машынцы». То, мабыць, друкавальная машынка?! І гучыць натуральна, і ў адным гняздзе з словамі друкаваць, друк, друкарня. І дакладна з'яву перадае. То якая яшчэ «пішучая»?

**Ул. СОДАЛЬ.**

## ПЛАН НАВУЧАЛЬНЫХ ТЭЛЕПЕРАДАЧ НА СТУДЗЕНЬ 1994 ГОДА

| № п/п | Дата | Клас | Прадмет | Тэма |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 49. | 10,11 | 8 | гісторыя Беларусі | Паўстанне 1863 г. на Беларусі |
| 50. | 11,12 | 5 | музыка | Тэма Радзімы ў музыцы і выяўленчым мастацтве Беларусі |
| 51. | 13,14 | 9 | беларуская літаратура | З любоўю да роднага краю /Алесь Гарун і яго творчасць/ |
| 52. | 17,18 | 4 | мая радзіма – Беларусь | Побыт вясковых жыхароў Беларусі /першая палова ХУШ ст./ |
| 53. | 18,19 | 9 | беларуская літаратура | „Стану песняй у народзе" /Цётка і яе творчасць/ |
| 54. | 20,21 | 6 | гісторыя Беларусі | Рэлігія і культура старабеларускіх зямель у Х–ХШ ст ст. |
| 55. | 24,25 | 4 | мая радзіма – Беларусь | Побыт магнатаў, шляхты, гараджан |
| 56. | 25,26 | 8 | беларуская літаратура | Адзін з пачынальнікаў /Максім Гарэцкі і яго творчасць/ |
| 57. | 27,28 | 9 | гісторыя Беларусі | Грамадска-палітычнае жыццё Беларусі ў сярэдзіне 40-х – 50-я гг. |

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ ў пытаннях і адказах

## Што такое «лібэрум вета»?

Лібэрум вета (у перакладзе з лаціны азначае «свабода забароны») — гэта права кожнага пасла (дэпутата) сумеснага Сойму Польскага Каралеўства і Вялікага Княства Літоўскага выказаць нязгоду з той ці іншай пастановай, і гэтага было дастаткова, каб адхіліць яе, нават калі ўсе астатнія дэпутаты прагаласавалі «за». Такім чынам дэпутату дазвалялася сарваць работу ўсяго Сойму.

Упершыню такое здарылася ў 1652 годзе, і з таго часу да 1764 года (калі былі ўведзеныя частковыя абмежаванні правоў шляхты) з 55 соймаў было сарвана 48. Шляхта лічыла «лібэрум вета» адным з галоўных сваіх набыткаў. Але на справе яно ў значнай ступені спрычынялася да праяваў палітычнай анархіі, прыкметна паралізавала дзяржаўную ўладу. Гэтым часта карысталіся суседнія дзяржавы (Расея, Аўстрыя, Прусія), зацікаўленыя ў аслабленні нашага гаспадарства.

Лібэрум вета канчаткова было зліквідаванае Канстытуцыяй 3 траўня 1791 года.

**Павел ЛОЙКА.**

## Як здарылася, што Жамойць пачала называцца Літвою?

Жамойць (лацінская форма — Самагіція, польская — Жмудзь) — гэта гістарычная вобласць па ніжнім цячэнні Нёмана і ўзбярэжжы Балтыйскага мора, заселеная плямёнамі балтаў. У 1422 годзе, у часе княжання Вітаўта, яна была канчаткова далучаная да Вялікага Княства Літоўскага і стала яго неад'емнай часткай. З часам нашы продкі пачалі называць жамойтамі не толькі насельнікаў уласна Жамойці, але і роднасныя ім плямёны.

Умовы для замацавання за Жамойцяй назову «Літва» склаліся ў XIX стагоддзі. Дзеячы жамойцкага нацыянальнага адраджэння для забеспячэння свайму руху гістарычнай асновы выкарысталі — у якасці этнічнага — найменне старадаўняй беларускай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага, а не сваю, спрадвечную, назву Жамойць (якая, дарэчы, шырока ўжывалася і ў XIX стагоддзі, але не асацыявалася з уяўленнямі пра развітую старажытную дзяржаўнасць).

Зразумела, яны прысвоілі не толькі найменне «Літва», але і заявілі пра свае выключныя правы на гістарычную і культурную спадчыну нашае старадаўняе дзяржавы і, у прыватнасці, на яе сімволіку. А паколькі ў жамойцкай мове не было нават слова для абазначэння галоўнага дзяржаўнага сімвала Вялікага Княства, жамойцкія адраджэнцы прыдумалі яго. Зрабіў гэта гісторык С. Даўкантас у 1845 годзе, назваўшы нашую «Пагоню» наватворам «Віціс».

Тым часам нашы прадзеды аж да канца XIX стагоддзя захоўвалі саманазоў «ліцьвіны». Але, на жаль, беларускае нацыянальнае адраджэнне запазнілася, пачалося значна пазней за жамойцкае. Нашы адраджэнцы, пачынаючы з Ф. Багушэвіча, ужо не маглі карыстацца спрадвечным саманазовам «ліцьвіны» і змушаныя былі прыняць найменне, якое тады было ўжо даволі пашыранае на Смаленшчыне, Віцебшчыне, Магілёўшчыне і выкарыстоўвалася расейскім друкам,— «беларусы».

Канчаткова назва «Літва» ў форме «Летува» афіцыйна была замацаваная за Жамойцяй 16 лютага 1918 года актам аб незалежнасці, і, такім чынам, быў пастаўлены знак роўнасці паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Летувой.

**Алесь КРАЎЦЭВІЧ.**

# «Я аб'ехаў усю Беларусь... Якая багатая наша мова!»

***Мікалай Нілавіч Крыўко працуе ў аддзеле лексікалогіі і лексікаграфіі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі. Я гутарыў з ім у невялікім «службовым» пакойчыку, дзе стаяць чатыры вялізныя шафы з картатэкай, на базе якой стварыўся 5-томны Тлумачальны слоўнік беларускай мовы.***

**— Ад Янкі Саламевіча нашы чытачы ўжо ведаюць, што Вы складаеце слоўнік Дзісеншчыны. Вы адтуль родам?**

— Не, я нарадзіўся ў Ленінградзе. Але мяне з немаўлячага ўзросту штолета вазілі туды да бацькавай маці. З цягам часу я пачаў разумець, што яна гаворыць не так, як людзі на берагах Нявы і не так, як па беларускім радыё. І я запытаў у бабулі: «Па-какому ты говоришь?» — По-манякоўску!

У пятым класе я і пачаў запісваць асобныя словы з гаворкі вёскі Манякова.

**— І з таго часу шмат назбіралі?**

— У маёй картатэцы каля 400 тысяч картак-слоў.

**— Гэта ж сапраўдны скарб.**

— Не слоў, бо на адны словы ў маёй картатэцы ёсць па 10—15 картак, на іншыя — 1—2 карткі. Саміх жа слоў і фразеалагізмаў за 30 з паловаю гадоў назбіралася каля 70 тысяч.

**— Нейкае слова Вас асабліва ўразіла?**

— Можна сказаць, што больш уразіла адсутнасць аднаго слова. Для мяне было нечаканым даведацца, што на Віцебшчыне не ўжываюць слоў беларус, беларускі. Іх няма зусім. Беларусы — гэта рускія. А тыя, каго мы называем рускімі,— гэта маскоўцы. Маскалі ж — стараабрадцы. Кажуць: *ён гаворыць па-руску*, гэта значыць, па-беларуску. У Манякове, скажам, можна пачуць: *«О, з Пецярбурга, пріехал, па-маскоўску гаваріт»*.

**— Захапленне дзіцячых гадоў прывяло Вас урэшце сюды?**

— У Ленінградскім універсітэце працаваў вядомы мовазнаўца Б. А. Ларын. Ён збіраў па школах звесткі пра вучняў, якія цікавяцца філалогіяй, любяць слова. Я паказаў Барысу Аляксандравічу свой слоўнічак дзісенскай гаворкі, які яго зацікавіў і здзівіў. Я пачаў хадзіць у гурток пры універсітэце, дапамагаў апрацоўваць картатэку будучага «Пскоўскага абласнога слоўніка».

А пасля мы пераехалі на Бацькаўшчыну, дзе я скончыў Дзісенскую школу. Хацелася вучыцца далей, і я выбраў Магілёўскі педагагічны інстытут. Я ўдзячны лёсу: там былі цудоўныя выкладчыкі... Антон Лукіч Юрэвіч, аўтар пяці кніг (шкада, не трапіў ён у ЭЛіМБел). Адна з самых цікавых — «Сучасная беларуская пунктуацыя», якую ён напісаў разам з Рыгорам Нічыпаравічам Клюсавым. Клюсаў выкладаў сучасную беларускую мову (сінтаксіс), агульнае мовазнаўства і параўнальную граматыку ўсходнеславянскіх моў. А да таго ж, меў фенаменальную памяць — яго называлі хадзячай энцыклапедыяй. Шмат чаму навучыўся я ў дацэнта Мікалая Васільевіча Абабуркі, аўтара вядомых мовазнаўцам кніг (на жаль, гэты сціплы чалавек і вялікі працаўнік не ўдастоіўся да гэтага часу вучонага звання прафесара). Ён натхняў мяне вывучаць беларуску мову, збіраць і сістэматызаваць народную лексіку і фразеалогію, чым я і займаюся больш чым тры дзесяткі гадоў.

Для параўнальнага вывучэння гаворак паўночнай Віцебшчыны мне давялося абхадзіць і аб'ехаць Пскоўшчыну, Наўгародчыну і сучасную Цвярскую вобласць. Я пераканаўся: шмат якія беларускія моўныя рысы пашыраны на расійскай тэрыторыі, а некаторыя дасягаюць літаральна Пецярбурга.

**— На якую тэму была Ваша дысертацыя?**

— Па паўночна-заходніх беларускіх гаворках. Я аб'ехаў практычна ўсю Беларусь... Якая багатая наша мова!

І вось што цікава. Поўныя формы, прыкладам *бабаў*, *нормаў*, *шапкаў* — яны толькі ў частцы раёнаў Гарадзеншчыны бытуюць. І я лічу, што нельга навязваць іх усёй літаратурнай мове. Гэта, як цяпер кажуць, не дэмакратычна. Я неяк напісаў *Мёраў*, дык ледзь не праклёны пайшлі ад маіх землякоў: застрэль, кажуць, а ніводзін чалавек з тых краёў не скажа так. Ты скруціў слова, пішуць. Куды ж гэта годна, што гэта за мова будзе?

**— То, можа, трэба было растлумачыць ім, што літаратурная мова не можа ўдаваць гаворку. Яна ствараецца паводле сваіх прынцыпаў і законаў. Што галоўнае ў нашай мове? Мілагучнасць! А таму форма *баб*, мяркую, не адпавядае гэтаму асноўнаму прынцыпу, уяўляецца мне чужой. Я, прыкладам, не з Гарадзеншчыны, але не магу ўявіць, каб у нас так сказалі: *Нешта нашых баб не відаць*. Скажуць — *бабаў*.**

— Я сам ужываю поўныя формы. У тых жа мёрскіх, дзісенскіх гаворках, у словах, што маюць збег зычных, скажам, *норм*, *торб*, ужываюцца формы *нормаў*, *торбаў*, *качэргаў*, але кажуць *Мёр*, а не *Мёраў*.

**— Мо пайсці на кампраміс: калі не адпавядае мілагучнасці...**

— Было такое правіла, але яго абышлі. Слоўнікі, праўда, даюць часам і доўгую і кароткую формы, скажам, *малп* і *малпаў*.

**— А як лічыце, *моў* — гэта добра, гэта — па-беларуску?**

— Для мяне — добра. Доўгая форма не патрэбна.

**— Але літаратурная норма ўсёроўна некаму не спадабаецца.**

— Мне хочацца, каб па-беларуску, мілагучна, але калі гэта супярэчыць народнай логіцы. Таму гэтых *формаў, бабаў, шапкаў* — не хочуць...

**— Бо прывыклі да расійскіх формаў. *Баб* — гэта ж русізм.**

— А я лічу, што формы тыпу *баб, шапак, вішань, песень* бытуюць як жывыя і традыцыйныя на пераважнай беларускай тэрыторыі. Не трэба баяцца іх ужываць. У нас жа часам бяруць польскія словы, каб не ўжываць сваіх, якія супадаюць з рускімі. Палякі, мо, і рады: вось дзе наша мова.

**— Тады расійцы будуць казаць, што іхняя. А дарэчы, як мне здаецца, у польскай мове гэтыя словы маюць кароткія формы. Ды ці трэба нам выбіраць? Нормы павінны адпавядаць мілагучнасці. Вучоныя лічаць, што на Беларусі захавалася некалькі архаічных моўных зон. У прыватнасці, і Ваша. Віцебская. Можа трэба глядзець, якія формы ўласцівы тым мясцінам.**

— А навошта гэту старызну цягнуць? Так можна адбіць ахвоту вывучаць мову... Любая мова развіваецца, а мы будзем круціць на стары лад.

**— Нашу мову скалечылі. Як меліярацыя нішчыць рэкі, так бальшавіцкія пастановы нішчылі нашу мову. І яны дамагліся свайго. Пра якое развіццё цяпер можна гаварыць. Паслухайце нашых дыктараў! Ды што яны! Вось заходзіў ваш былы дырэктар Інстытута мовазнаўства. На якой мове ён да Вас звярнуўся? На расійскай. Пра якое развіццё мовы мы можам гаварыць?**

— Я хацеў сказаць, што перакручваюць у другі бок. Я не прыхільнік гэтых *арытмэтык, філялёгій...*

**— Некалі ж мы павінны вярнуцца да нашых каранёў, вярнуцца на той натуральны шлях развіцця і адмовіцца ад штучных увядзенняў. Прыкладам, у нашай мове няма гука [ф]. Дык чаму мы павінны гаварыць *арыфметыка?* Гэта толькі нядаўна нашы людзі пачалі гаварыць *Фёдар*, а раней казалі *Хведар* або *Тодар*. Дык хто перакручвае народную логіку?**

— Сапраўды, у жывых гаворках слоў з гукам [ф] мала. Скажам, на Дзісеншчыне будзе *арыхмеціка, пасоль, Хведзя, Хвенька*.

**— І якую хворму Вы падасце ў сваім слоўніку?**

— Гэта ж не нарматыўны слоўнік. Я проста занатоўваю, што ёсць...

**— Дарэчы, ці скора мы ўбачым яго? У Вас на стале шмат скрынак з карткамі. Гэта — дзісенскія скарбы?**

— Не. У рабочы час я працую толькі над планавымі тэмамі, а іх у мяне некалькі. Але таму, што я працую штодзённа не 8 гадзін, а 18—19, і кожны мой штогадовы чарговы адпачынак таксама ідзе на навуку, то я спраўляюся яшчэ рабіць нешта і для душы. А гэта апроч згаданага слоўніка яшчэ і слоўнік сінонімаў беларускай літаратурнай мовы, ды іншыя праблемы і тэмы.

**— Гэта ж такі патрэбны слоўнік. Чаму б Вам не пакінуць на пэўны час усю іншую працу?**

— Асноўную планавую працу трэба рабіць у першую чаргу. Вось цяпер выходзіць трохтомны Руска-беларускі слоўнік. Два тамы ўжо надрукаваны, я вось трэці чытаю, праўлю — неабходна ўносіць змяненні. Працую таксама ў планавым парадку над новым Тлумачальным слоўнікам беларускай літаратурнай мовы. А колькі пабочных просьбаў. Нядаўна рэцэнзаваў Атлас гаворак Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці, які склала Л. В. Леванцэвіч з Брэсцкага педінстытута. Дзіўлюся: адна жанчына столькі зрабіла. Трэба было адной сабраць велізарны моўны матэрыял і ўсё гэта нанесці на карты. У Брэсцкім педінстытуце, наогул, працавітыя людзі. Галіна Малажай, Марыя Лукашук... І аспіранты іх такія ж! Відаць, не знішчаны яшчэ на Палессі генафонд. А ў Гародні! Іван Якаўлевіч Лепешаў адзін рабіў і робіць кнігу за кнігай. І фразеалагічны слоўнік адзін склаў — першы том ужо выйшаў. А Павел Сцяцко! Адзін зрабіў навуковы агляд усяго беларускага народнага словаўтварэння, напісаў шэраг значных, навукова важных кніг.

**— І я ведаю аматараў, якія збіраюць адметныя слоўцы свайго роднага кута. А калі нам усім разам узяцца і стварыць слоўнік жывой беларускай мовы.**

— На жаль, пакуль для такой важнай працы няма базы.

**— А ці нельга выкарыстаць словы картатэкі, што захоўваецца ў гэтых шафах?**

— Толькі ў нязначнай ступені, бо гэта картатэка літаратурнай мовы, хаця ў ёй сабрана каля 3 мільёнаў картак-слоў.

**— Шмат гэта ці мала?**

— Здаецца, і нямала. Але, скажам, у картатэцы рускай літаратурнай мовы, якая знаходзіцца ў Інстытуце рускай мовы Расійскай АН у Санкт-Пецярбургу,— 9 мільёнаў картак-слоў. А ўкраінцы ў аналагічнай картатэцы маюць 12 мільёнаў.

**— Ці наша мова бяднейшая?**

— Бясспрэчна, не! Але ў нас у Інстытуце з канца 70-х гадоў картатэка не папаўнялася. Мова наша не бяднейшая за суседнія. У гэтым я пераканаўся, працуючы над слоўнікам сінонімаў беларускай літаратурнай мовы. Амаль кожнае наша слова мае на 3—4 сінонімы больш у параўнанні, скажам, з рускай мовай. Напрыклад, беларускае слова *пераадолець* мае 12 сінонімаў, а рускае *преодолеть* — усяго 7 сінонімаў. Гэта сведчыць пра надта багатую народную аснову нашай мовы і яе словаўтваральную варыянтнасць.

**— Ад імя аматараў беларускай мовы прашу падзяліцца з намі Вашымі скарбамі, асабліва матэрыяламі з Вашага будучага слоўніка сінонімаў. У Вас жа ёсць што прапанаваць.**

— Так. Большая палавіна слоўніка сінонімаў ужо падрыхтавана. І я са здавальненнем пазнаёмлю чытачоў газеты з некаторымі яго старонкамі.

**— Дзякую.**

**Гутарыў Здзіслаў СІЦЬКО.**

ВЕЧАРЫНЫ

# «ПЕРАДАЙЦЕ АД МЯНЕ ПРЫВІТАННЕ ЎСІМ, ХТО ГЭТА ЗАСЛУЖЫЎ»

7 снежня ў сталічным Доме літаратара адбыўся вечар, прысвечаны жыццю і творчасці Наталлі Арсенневай, яе 90-годдзю. Уступнае слова паэта Алега Лойкі, хоць і з літаратуразнаўчым ухілам, але прачулае і ўзнёслае, вызначыла танальнасць усіх іншых выступленняў. Лёс юбіляркі з яго падачы прасочваўся ў цеснай повязі з лёсам Бацькаўшчыны. «Гэта той вечар,— сказаў Алег Антонавіч,— на якім мы будзем думаць і гаварыць аб повязі былога, сучаснага і будучага, і зноў жа аб выбары лёсу, шляху і ідэалу. Аб выбары, які нас сёння абавязвае. Выбары намі самімі свайго будучага, будучага нашай паэзіі, нашай літаратуры». Аповяд А. Лойкі пра паэтэсу дапаўнялі іншыя, і так склаўся партрэт беларускі, пясняркі, патрыёткі і змагаркі, які адпавядаў жыццёвай праўдзе.

Наталля Арсеннева нарадзілася 20 верасня 1903 г. у Баку ў сям'і рускага чыноўніка, што паходзіў з роду тых Арсенневых, якія далі свету Міхаіла Лермантава. У Першую сусветную вайну яна жыла ў Яраслаўлі. У 1921 г. скончыла Віленскую беларускую гімназію, нядоўга вучылася ў Віленскім універсітэце. У гэтым жа годзе дэбютавала вершам «Восень» у газеце «Наша думка». Першы зборнік «Пад сінім небам» убачыў свет у 1927 г. Найбольш поўна лірыка Арсеннай пададзена ў кнізе выбранага «Між берагамі» (Нью-Йорк — Таронта, 1979). Жыла: 1922—1924 гг.— у Слоніме; 1924—1939 — у Польшчы; 1939—1940 — у Вілейцы; 1940—1941 — з дзецьмі ў Казахстанскай ссылцы. У маі 1941 г. у сувязі з хадайніцтвам Янкі Купалы, Максіма Танка, Петруся Глебкі была вызвалена, вярнулася на радзіму, знайшла свайго мужа ў вёсцы Доры і пераехала з сям'ёй у Менск. З прыходам нямецка-фашысцкіх акупантаў працавала ў Менскай беларускай газеце і ў Беларускім культурным згуртаванні.



*Госці вечарыны пісьменнікі Я. Брыль, М. Ермаловіч і С. Грахоўскі.*

А. Лойка адзначыў, што ў паасобных яе вершах той пары гучалі ноткі пратэсту супраць акупантаў, хоць у асноўным імкнулася яна быць над «схваткай». Гэту дэталь істотна дапоўніла Рагнеда Аляхновіч, якая прачытала са сцэны твор Арсенневай «Акцыя» на тэму крывавай расправы фашыстаў з яўрэйскім насельніцтвам. Тут асабліва відавочна грамадзянская пазіцыя аўтаркі:

Гадзіны дзве брахаў у золкасць кулямёт,
ды заліла й яму ноч ляпу чорным лякам.
Спыніла лёт лісцё, сплыло на целаў сплёт,
і нават Есель сціх, ужо не плакаў.
І з-пад павек яго, хоць ён не знаў Хрыста,
глядзеў Хрыстос з тугой нянаскаю, дзівоснай
на тых, каму з пяску крывавага не ўстаць,
на катаў у крыві... слату... і восень...

Вайна адабрала ў паэтэсы сына. У эміграцыю выехала ў 1944 г. Да 1949 г. жыла ў Германіі, а затым у Злучаных Штатах Амерыкі. Афіцыйныя ўлады Беларусі, а таксама многія нашы грамадзяне, кіруючыся той думкай, што «на фашысцкіх сметніках нечага шукаць літаратуру», усё яшчэ адмаўляюць Арсенневай у грамадзянскай рэабілітацыі, не могуць ёй даравадь «біяграфію». Як адзначыла ў сваім выступленні старшыня Рады «Бацькаўшчына» Ганна Сурмач, Наталлі Арсенневай «адмаўляецца ў праве мець свой погляд на лёс Беларусі і ўласнае месца ў яе гісторыі». Сурмач пашкадавала, што Арсеннева так і засталася ў жыцці між двума берагамі, вярнулася на Бацькаўшчыну творчасцю, але не вярнулася сама. Хоць яна нам сёння так патрэбна, у час, калі ідзе змаганне за Беларусь і яе незалежнасць.

Звесткі пра Наталлю Арсенневу даходзяць да Беларусі перш за ўсё праз сурадзічаў, якія бываюць у Амерыцы. Апошнім яе бачыў міністр замежных спраў П. Краўчанка. Ён падзяліўся з прысутнымі сваімі ўражаннямі аб асобе паэтэсы: светлы розум, поўніца творчымі і жыццёвымі сіламі, апантана выступае перад публікай, у працэсе гутаркі шмат цытуе і шчыра прызнаецца, што не лічыць сябе прафесійнай паэткай, а піша «выпадкова». Яна расказвала П. Краўчанку і Г. Бураўкіну пра сваю перапіску з Адамам Багдановічам, пра ўплыў і падтрымку Максіма Гарэцкага, дзякуючы якому яна і стала паэтэсай. З гонарам сказала: «Я не друкуюся — мяне друкуюць на Бацькаўшчыне».

Як і Ганна Сурмач, Уладзімір Навумовіч з БДУ прыгадаў свае знаёмства ў студэнцкія гады са зборнічкам паэзіі Н. Арсенневай, які выхоўваў беларускасць у многіх. «Нельга маніць усяму свету і ўвесь час,— паўтарыў Навумовіч словы Лінкальна, маючы на ўвазе той туман недаверу і падману, які пакрыў імя паэткі,— два бергі павінны аб'ядноць нас».

Унучка Якуба Коласа Марыя Міцкевіч прыгадала жыццё беларускіх эмігрантаў у Нямеччыне, дзе жыў і родны брат яе дзеда Міхась Міцкевіч. Там працавала беларускае выдавецтва і беларуская гімназія імя Купалы, якую скончылі Зора і Вітаўт Кіпелі, Янка Запруднік і многія іншыя эмігранты-суайчыннікі. Брат Якуба Коласа працаваў дырэктарам беларускай пачатковай школы.

Барыс Сачанка нагадаў прэс — маральны і ідэалагічны, які адчуваў у Саюзе пісьменнікаў, калі вырашалася справа аб публікацыі твораў беларусаў-эмігрантаў. «Я рад,— сказаў ён,— што гэтыя людзі перамаглі тых, хто не дазваляў гаварыць пра Арсенневу і іншых творцаў-эмігрантаў. Я зрабіў усё магчымае, каб іх паэтычнае слова дайшло да беларускага народа». Барыс Сачанка паведаміў таксама, як рыхтаваўся і выдаваўся зборнік паэзіі «Туга па радзіме». Прыняўшы кнігу з рук Масея Сяднёва, Наталля Арсеннева заплакала ад радасці, што нарэшце яе творчасць вярнулася на Беларусь.

Калі ўжо гаварыць пра тое, што азначае для нашай культуры Арсеннева, трэба ўлічыць і яе мастакоўскую пераклічку з М. Багдановічам. У яе такі ж самы погляд на здраду і вернасць радзіме. Прыгадаем Максімава:

Мо яны, Беларусь, паняслiся,
За тваімі дзяцьмі наўздагон,
Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?
Біце ў сэрцы іх, біце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць...

У Арсенневай:

Ды ёсць і іншыя, якіх ты вылюляла
Найшчыршай песняй матчынай,
Якіх карміла лустай жытняю нямала.
Да ўчора. І што сяння кажуць: кінь,
Якія мы твае? А ты якая наша?
Цябе няма, цябе хтось выдумаў на смех.
І вышчараюцца, й клянуць цябе, а часам,
Клычком за горла...

У Багдановіча:

Старадаўняй крывіцкай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць!

У Арсенневай:

Прысягаем табе мы сягоння,
Што пакуль хоць адзін з нас жыве,
Нашай слаўнай крывіцкай Пагоні
Мы не зганьбім, мы ўславім яе.

Юбілейны вечар Наталлі Арсенневай стаў адначасна і вечарам паэзіі. Са сцэны прагучалі ў выкананні артыстаў Галіны Дзягілевай, Юрыя Авяр'янава і Вячаслава Станкевіча вершы паэтэсы — такія розныя па танальнасці і тэматыцы, прасякнутыя палкім пачуццём, філасафічнасцю, грамадзянскім пафасам («Малады паэт», «Твая душа», «Прысяга», «Беларусі», «Снежань», «Мэта жыцця», «Шчасце», «Жыве Беларусь», «Акцыя»). У праграме вечара таксама выступілі паэт Леанід Пранчак, Леанід Галубовіч. Сябры Менскай скаўцкай харугвы Вітаўта пад кіраўніцтвам В. Якімовіч, сябры праваслаўнага брацтва Трох віленскіх пакутнікаў выканалі гімн Арсенневай «Магутны Божа», а спадар Пузына выканаў музычны найгрыш на старадаўнім інструменце хорум.

Ірына КРЭНЬ.



*У выкананні хору прагучалі песні на вершы Н. Арсенневай.*
*Фота У. Панады.*




*Рубрыку вядзе*
***Лявон БАРШЧЭЎСКІ***

Толькі каля ста пяцідзесяці вершаў пакінуў пасля сябе грэчаскі паэт Канстанцінас Кавафіс (1863—1933) і, тым не менш, здабыў сабе сусветную вядомасць.

**Канстанцінас КАВАФІС**

ТЭРМАПІЛЫ

Пашана й слава тым, хто Тэрмапілы
Ў жыцці пабудаваў ды іх бароніць,
Хто ведае заўжды свой абавязак,
Ва ўсіх сваіх учынках справядлівы,
Але не страціў пачуцця спагады;
Хто шчодра дзеліцца сваім багаццем,
Але і ў беднасці сваёй не скваппы:
У час цяжкі на дапамогу прыйдзе;
Хто не прывык хлусіць і кажа праўду,
А як зманіў хто — даравадь тым можа.

Тым больш пашаны ім, калі прадбачаць
Яны (а шмат хто сапраўды прадбачыць),
Што ўрэшце прыйдзе Эрыяльт * падступны
І ўсё-ткі персы-прыхадні праврвуцца.

**Пераклад з навагрэцкай Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.**

* Эрыяльт — здраднік, які адкрыў войску персідскага цара Ксэркса праход каля Тэрмапілаў.

## БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

### Студзень

**Па традыцыі працягваем публікацыю і на 1994 г. «Беларускага народнага календара». Каментарыяў да свят не даём, паколькі ў мінулым годзе выдадзена кніга Алеся Лозкі «Беларускі народны каляндар», дзе ў храналагічным парадку і падрабязна апісваюцца ўсе святы і абрады, якія ім спадарожнічаюць.**

**Прынятыя скарачэнні для царкоўных свят:**

**Пр.** — праваслаўнае.

**Кат.** — каталіцкае заходняга абраду.

**Ун.**— каталіцкае ўсходняга абраду (уніяцкае).

1. (субота). **Грамадзянскі Новы год.** Працяг Піліпаўкі (да 5 студзеня).

**Кат.** *Свята Багародзіцы.*

**Ун.** *Абразанне Гасподняе. Дзень Базыля Вялікага, айца царквы.*

2 (нядзеля). **Ун.** *Нядзеля перад Богаз'яўленнем.*

4 (аўторак). **Ун.** *70 Апосталаў.*

6 (чацвер). **Кат.** *Тры каралі (Богаз'яўленне)*

**Ун.** *Богаз'яўленне.* Вялікае асвячэнне вады (Вадохрышча).

**Пр.** *Вялікая посная куцця.*

7 (пятніца). **Пр. Каляды.** *(Нараджэнне Ісуса Хрыста).*

**Ун.** *Сабор Яна Хрысціцеля.*

9 (нядзеля). **Пр.** *Сцяпан,* народны прысвятак.

**Ун.** *Нядзеля пасля Богаз'яўлення.*

10 (панядзелак). **Кат.** *Хрост Панскі (Вадохрышча).*

11 (аўторак). **Ун.** *Апанас.*

13 (чацвер). **Пр.** *Багатая (тоўстая, шчодрая, скаромная) куцця. Вечар-шчадрэц.* Пачатак Шчодрага тыдня, або *Багатая Каляда.*

14 (пятніца). **Пр.** *Стары Новы год. Васілле (святы Козлік).*

16 (нядзеля). **Ун.** Пакланенне аковам св. апостала Паўла.

17 (панядзелак). **Ун.** Нядзеля 31 Святога айца нашага Антона Вялікага.

**Пр.** *Марк,* народны прысвятак.

18 (аўторак). **Пр.** *Пісаная (Вадзяная) Каляда* – завяршальны дзень Каляд. *Посная (Галодная, Вадзяная) куцця перад Вадохрышчам.* Канец святых вечароў. Провады Каляд.

19 (серада). **Пр.** *Вадохрышча (Богаз'яўленне).*

20 (чацвер). **Ун.** *Аўхім Вялікі.*

23 (нядзеля). **Пр.** *Рыгор,* народны прысвятак.

24 (панядзелак). **Пр.** *Фядот,* народны прысвятак.

**Ун.** *Нядзеля 32 (ЗАКУЭЯ). Дзень святое маці Ксенні.*

25 (аўторак). **Пр.** *Таццяна,* народны прысвятак.

**Кат.** *Дзень святога Паўла-апостала.*

**Ун.** *Дзень Рыгора Багаслова біскупа.*

27 (чацвер). **Ун.** *Пераняссенне мошчаў св. Яна Залатавуснага.*

30 (нядзеля). **Ун.** *Трохсвята начальнікаў* (Базыля Вялікага, Рыгора Багаслова і Яна Залатавуснага). Літургія апошняга служыцца ў храмах.

31 (панядзелак). **Пр.** *Апанас,* народны прысвятак.

**Ун.** *Нядзеля Мытніка і Фарысея.*

І. К.



**Зноў у свеце каляды. І месяц працягла звініць,**
**Як заслонка ў пакінутай, выстылай, выдзьмутай печы.**
**Глуха — звонкай калядкай няма нас каму пабудзіць:**
**«Ды ці дома сам пан гаспадар? Святы вечар!»**

**Фота У. ПАНАДЫ.**

# План работы Дома літаратара на студзень 1994 года

| | | |
|---|---|---|
| 3 студзеня | Ёлка<br>Зімовае свята для дзяцей | Пачатак у 12.00 |
| 5 студзеня | Ля вытокаў беларускай прозы<br>Да 125-х угодкаў нараджэння<br>Ядвігіна Ш. | Пачатак у 18.30 |
| 11 студзеня | Вечарына дакументальных музычна-этнаграфічных фільмаў<br>„Пранясі, Божа, хмару"<br>Аўтар сцэнарыя Зінаіда Мажэйка<br>Рэжысёр Алег Шклярэўскі<br>„Палескае вяселле"<br>Аўтар сцэнарыя Зінаіда Мажэйка<br>Рэжысёр Юры Лысятаў<br>Аператар Мікола Сідорчанка | Пачатак у 18.30 |
| 13 студзеня | Вечар памяці пісьменніка<br>Васіля Хомчанкі | Пачатак у 18.30 |
| 18 студзеня | Прэм'ера кнігі вершаў Змітрака<br>Марозава „Сын чалавечы" | Пачатак у 18.30 |
| 20 студзеня | „Тут я жыву..."<br>Да 80-х угодкаў нараджэння<br>Аляксея Кулакоўскага | Пачатак у 18.30 |
| 25 студзеня | Песня абарвалася рана<br>Да 125-х угодкаў нараджэння<br>паэта Адама Гурыновіча | Пачатак у 18.30 |
| 27 студзеня | У радаводнай гасцёўні<br>браты Грыцкевічы | Пачатак у 18.30 |

## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

31 СНЕЖНЯ, ПЯТНІЦА

21.00. Панарама.
23.25. «Начное рандэву». Музычна-забаўляльная праграма.
23.50. Віншаванне з Новым годам.
0.05. «Начное рандэву».
1.55. «Сільва». Мастацкі фільм.
4.15. Рок-айленд. Музычная праграма з удзелам гурта «Крама».

1 СТУДЗЕНЯ, СУБОТА

12.10. Тэлебом. Шоу-конкурс юных выканаўцаў.
13.40. Шматгалоссе. Народы Беларусі: гісторыя, культура, традыцыі.
19.05. «Фаварыт-шоу». Забаўляльная праграма.
21.00. Панарама.

## Народная лякарня

### *Спосаб прыгатавання яблычнага воцату*

Напіткі, што прыгатоўваюцца пры дапамозе анаэробнай ферментацыі фруктовых сокаў, галоўным чынам, яблычнага, грушавага і айвовага, вядомы пад агульнай назвай сідр. З сідра або соку фруктаў можна атрымаць шляхам аэробнай ферментацыі сідравы харчовы воцат высокай якасці. Можна прыгатаваць воцат непасрэдна з яблык па наступнаму рэцэпту.

Фрукты мыюць, выдаляюць гнілыя і чарвівыя часткі, затым труць на буйнай (бурачнай) цёрцы разам з зярняткамі і сярэдзінкай. Сырую яблычную кашу кладуць у пасудзіну: шкляны слоік, драўляную бочачку, эмаліраваную каструлю або гліняны эмаліраваны чыгунок. Заліваюць цеплаватай кіпячонай вадой (на 0,4 кг яблычнай кашы — 0,5 л вады, або на 4 кг яблычнай кашы — 5 л вады). На кожны літр вады бяруць 100 г цукру або мёду, 10 г хлебных драджджэй, 20 г сухога чорнага (жытняга) хлеба.

Посуд з сумессю трымаюць адкрытым (дзеля кантакту з паветрам) у цёмным месцы (браджэнню шкодзяць сонечныя ультрафіялетавыя промні), пры тэмпературы паветра 20—30 °С. Змесціва перамешваюць 2—3 разы на дзень драўлянай лыжкаю, а праз 10 дзён выціскаюць праз марлю. Сок, які атрымаўся, яшчэ раз працэджваюць праз марлю і пераліваюць у пасудзіну з шырокім горлам. Варта дабавіць да кожнага літра соку па 50—100 г цукру або мёду і добра размяшаць. Для правядзення далейшай ферментацыі горла пасудзіны завязваюць марляй і ставяць у цяпло. Браджэнне працягваецца. Калі вадкасць супакоіцца і праясніцца, то можна лічыць, што браджэнне скончылася. У залежнасці ад якасці соку, калі вытрыманы ўсе патрабаванні да яго прыгатавання, яблычны воцат будзе гатовы праз 40—60 дзён. Яго пераліваюць у бутэлькі, фільтруючы праз лейку з марляй. Бутэлькі шчыльна затыкаюць коркамі, закупорваюць воскам і ставяць у халоднае месца.

Яблычны воцат прыемны на смак. Ужываецца ў якасці прыправы да салатаў і іншых страў. У адпаведнасці з рэкамендацыямі доктара Д. Джарвіса яблычны воцат можна ўжываць і як дыетычны харчовы прадукт, і як тэрапеўтычны сродак пры розных захворваннях.

*Іранічныя радкі*

## Хочацца...

Вінцук АСЬЦЮК.

Вось і Новы год не за гарой.
Што чакаць нам ад яго з табой?
Хочацца, каб нашы дэпутаты
Не вялі ўжо больш дэбаты,
Дзе нам заўтра жыць і як нам жыць,
Што нам сёння есці, што нам піць
І якой краіне нашай быць,
Бо даўно ўжо ведае народ
(І тым больш — ідзе чацвёрты год),
Як парламент «вумна» засядае
І «зайцоў» народных праядае.
Хочацца парламент разагнаць,
Бо дабра няма і не відаць.
Хоць прынята сотні ўжо законаў,
Ды яны, напэўна, для варонаў,
Бо ніхто законаў не шануе,
А як хоча, так людзьмі кіруе.
Хочацца да выбараў дажыць,
Бо ад холаду душа дрыжыць
І мароз гуляе па кватэры.
Лічаць «зайчыкаў» пенсіянеры,
Стоячы у чэргах кожны дзень.
Наш урад глухі, нібыта пень,
Бо не чуе голасу народа.
Толькі бізнесмены з асалодай
П'юць каньяк, не лічачы мільёны,
На машынах лётаюць шалёна.
Ім на нашы беды напляваць,
Ім галоўнае — купіць, прадаць.
Праўда, ёсць між іх таксама людзі,
Што заўсёды думаюць: што будзе
З роднаю зямлёй і роднай мовай,
Без якіх жа многія гатовы
Жыць, аддаўшыся за грош Маскве.
Дзякуй Богу, Беларусь жыве!
Хочацца уласнае валюты,
Хочацца, каб кожны быў пачуты
Богам і начальнікам нязлым.
Хочацца, каб над зямлёй не дым,
А плылі бухматыя аблокі,
Каб газет пярэстыя сарокі
Нам насілі добрыя навіны.
Хочацца, каб на зямлі Айчыны
Менш было ля ўлады крыкуноў.
Хочацца, каб вера і любоў
Правілі ўсюды і штодзённа,
Каб ўсё было ў жыцці законна.
Хочацца сягоння вельмі многа,
Ды на ўсіх у нас адна дарога
У год Новы, што не за гарой.
Што чакаць нам ад яго з табой?
Толькі мала зараз штосьць хацець —
Трэба штосьць рабіць і разумець,
Што ты робіш, каб у родным краі
Не ўладарылі чужынцаў зграі.
Не глядзі наперад у журбе,
Бо ўсё залежыць ад цябе!

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 303.

МВПА імя Якуба Коласа, Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка»,
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.
Індэкс 63865.

Наклад 7268 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 27.12.1993 г. у 15 гадзін.